# Ніва

## БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК

№ 14 (945) ГОД XIX БЕЛАСТОК 7 КРАСАВІКА 1974 г. ЦАНА 60 гр.

### З ПЕСНЯЙ НАСУСТРАЧ XXX-ГОДДЗЮ ПНР



**СЁСТРЫ МАНЦЮК**

**Сёстры Марыя і Вера Манцюк з Мікуліч Сяміцкага павету — дуэт, які перамог у катэгорыі фальклорнай песні сёлетняга цэнтральнага агляду БГКТ.** **Фота А. Карпюка**

## У ДАРОЖКАХ ДОБРА ЖЫВУЦЬ

Чакалі мы яшчэ прыезду прадстаўніка важнай установы, без якога не выпадала распачаць гэту гадавую ўрачыстасць. Дык я падсеў да групы жанчын, якія занялі месца непадалёку ад уваходу ў прасторную залу дарожкаўскага дома культуры.

— Што чуваць у вас? Як жывецца вам у спулдзельні? — запытаў я ў іх, каб неяк навязаць гутарку.

— Ну, дрэнна ў нас ніколі не бывала, — адгукнулася прыгожая маладзіца. І напэўна не будзе. Скажы, Марыся, — звярнулася яна да суседкі за сталом, — колькі ты летась зарабіла?

— Ай, адчапіцеся! — баранілася тая. — Вы лепш свой заробак палічыце.

— Няма чаго саромецца! Не крадзенае мы лічым. У мяне з мужам назбіраецца разам звыш 700 працадзён.

— То ў нас хіба да 800 дацягне.

— Што ты, Зіначка! То ж твой мужык сам, кажуць, 580 працадзён мае! А ў цябе таксама каля трохсот назбіраецца.

— Бо яму функцыйныя, за старшынства, далічылі.

— Але Мікалай Барташук функцыйных не меў, а таксама звыш паўтысячы выпрацаваў.

— Не ён адзін. А брыгадзір Матвейчук, а Тодар Мазурчук!

— А даярка, Галена Куніцкая, то ж яна адна 300 працадзён зарабіла!

Разгаварыліся бабы, адна праз адну. Я амаль нічога з гэтага не разумеў, а яны мяне да слова не дапускалі, адно толькі гэтыя працадні пералічвалі.

— Скажыце, даражэнькія, — урэшце дабіўся я голаса, — 500 ці 800 працадзён — гэта многа ці мала?

— А вы праз с т о іх памножце і тады будзеце ведаць!

— Чаму якраз праз 100?

— Бо ў нашай спулдзельні сёлета па 100 злотых на адзін працадзень выпадае! — з гордасцю заявіла тая ж маладзіца.

— Ды яшчэ 10 злотых прэміі нам далі. Таму трэба вам множыць праз 110.

Што ж, рахунак просты. Тут вышэйшай матэматыкі не трэба. 70—80 тыс. зл. на сям'ю за год працы. А калі здарылася, што з сям'і працавала не двое, а больш, дык і 100 т ы с я ч прыгарнулі ў сямейную скарбонку. Цяпер толькі гэтыя сумы трэба падзяліць на 12, каб ведаць, колькі грошай дарожкаўскія спулдзельцы зараблялі ў месяц. Выходзіць ад 5 да 8 і больш тысяч злотых.

А гэта ж не ўсё, бо кожная спулдзельчая сям'я на сваім прысядзібным участку гадуе 1—2 каровы, свіней колькі хоча, а куры, гусі... Даход ад гэтай „хатняй" гаспадаркі амаль поўнасцю забяспечвае штодзённыя патрэбы спулдзельцаў. Вось гэтаму доказ. Са спулдзельчай касы на працягу года ўзялі яны авансам ледзь 280 тыс. злотых, хаця браць маглі, колькі патрабавалі і хацелі. Аднак спулдзельцы гэтых грошай не патрабавалі, атрымалі іх — **звыш 1 млн. злотых** — у пачатку новага года, пасля гадавых падлікаў, атрымалі і палажылі ў ПКО. Дык як?

Мае падлікі спыніў старшыня дарожкаўскай спулдзельні **Аляксандр Вішнеўскі**, які папрасіў гарадскіх гасцей у прэзідыум, а сваім падуладным аднавяскоўцам загадаў спыніць аднаасобніцкія гутаркі і заняць месца за сталамі.

Размясціліся яны, як у царкве: жанчыны з левага боку прасторнай залы, а мужчыны на правым флангу. Пасярэдзіне, пад самай сцэнай стаяў стол прэзідыума.

Старшыня Вішнеўскі пачаў чытаць дзелавую справаздачу аб дасягненнях

Працяг на стар. 4



*Да сонца.* *Фота Я. Цялушэцкага*

## ГІСТОРЫЯ АДНАГО ЖЫЦЦЯ

Багатая гісторыя жыцця 80-гадовага цяпер дзядулі Паўла Храноўскага з Азяблаў, вёскі ў Беластоцкім павеце. Калі было яму 22 гады, стаў салдатам 25 білеўскага палка Чырвонай Гвардыі, які дзейнічаў у Тульскай губерні. Потым быў у органах народнай міліцыі і надзвычайнай камісіі — у чыгуначным аддзеле.

Успамінае: „Чыгункі былі тады найбольш знішчаны. Узарваныя рэйкі, спаленыя вакзалы, старыя паравозы і вагоны, частыя катастрофы — вось вобраз тагачаснага транспарту. На станцыі шырыліся пакражы і сабатажы. Ці раз трэба было вока ў вока стаяць з ворагам, які раскрадаў грамадскае дабро?"

У той час Павел Храноўскі ўступіў у бальшавіцкую партыю. „Я ганаруся, — гаворыць, — што ў гады Кастрычніцкай рэвалюцыі быў у радах партыі Леніна. Іменна ў партыі я вучыўся марксізму, барацьбе з ворагамі народа. Я ўсё жыццё стараўся так жыць, рабіць і змагацца, як вучыла мяне партыя Леніна".

Калі радзілася народная ўлада ў Польшчы, Павел Храноўскі быў у першых радах арганізатараў ППР і ОРМО. Змагаўся з бандамі. Будучы сакратаром гуртка ППР у Азяблах, праводзіў жывую і шырокую палітычную працу. Людзі яго заўсёды шанавалі. Таму на працягу 20 год выбіралі яго радным ГРН у Міхалове. За сваю дзейнасць і заслугі Павел Храноўскі атрымаў: Ордэн Чырвонай Зоркі, прызнаны яму Вярхоўным Саветам СССР, Крыж Кавалерскі Ордэна Адраджэння Польшчы, адзнаку „Заслужаны Беласточчыне".

Цяпер Павел Храноўскі разам з жонкай жыве ў роднай вёсцы Азяблы.

**Павел Гутнік**

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У "НІВЕ"

**Пленум ГП БГКТ ● Я працавала ў сакратарыяце Грамады ● Школа ў Зубрах ● Ахова здароўя ў Гарадку ● Вяселле на Бельшчыне ● Трэмблядорэс у Задрыпанцы ● Босай пяткаю на гвоздзь ● Малако ў Альхоўцы ● Весткі з Баброўнікаў, Гайнаўкі, Міхнаўкі, Нарэйкаў, Чыжоў, Азяблаў, Міхалова, Кожына, Тапалян, Бельска, Саколкі, Шудзялава, Белавежы, Зубава, Курашава і інш. ● Песня з рэпертуару З. Сасніцкай „Ostatnie tango naszej miłości".**

## БГКТ ХРОНІКА

■ У сакавіку адбыліся далейшыя справаздачныя і справаздачна - выбарныя сходы ў гуртках БГКТ, на якіх былі выяўлены недахопы ў ранейшай дзейнасці, прыняты планы працы і выбраны новыя праўленні: у Райках — Ніна Філіманюк, Сяргей Семянюк і Ірэна Семянюк, у Леўках — Янка Тамашук, Аліцыя Кацэйка і Мікалай Гаўрылюк, у Агародніках — Лідзія Падольская, Мікалай Пракапюк і Валянціна Галёнка, у Крывой — Янка Кірызюк, Вера Пост і Янка Добаш, у Казлах — Іяланта Гаўрылюк, Яўгенія Аверчук і Юрка Федарчук.

■ У Беластоку ў клубе на вуліцы Траўгута 3, адбыўся 21 сакавіка аўтарскі вечар Івана Чыквіна, які чытаў свае польскія і беларускія творы, а таксама адказваў на шматлікія пытанні прысутных. Вечар вёў Сакрат Яновіч, які па даручэнню аддзела культуры гарадскога ўпраўлення з'яўляецца арганізатарам такіх сустрэч з беластоцкімі літаратарамі.

■ 22 сакавіка ў варшаўскім аддзеле БГКТ др Аляксандр Баршчэўскі правёў лекцыю на тэму „Беларускі фальклор, звязаны з нараджэннем чалавека". Пасля лекцыі разгарнулася цікавая дыскусія.

■ Гайнаўскі аддзел БГКТ супольна з аддзелам культуры павятовага ўпраўлення пры ўдзеле прадстаўнікоў іншых арганізацый і ўстаноў выязджаюць на вёскі да тэатральных калектываў і праводзяць ацэнку мастацкага ўзроўню самадзейнікаў. 22 сакавіка праведзены быў такі агляд у Ласінцы, дзе тэатральны калектыў са Скупава выступаў з п'есай Янкі Купалы „Паўлінка". А вось удзельнікі гэтай пастаноўкі: Данута Кісялеўская, Рышард Кісялеўскі, Янка Грыгарук, Васіль Русак, Ніна Сакоўская, Крыстына Зінеўская, Юрка Анішчук, Славамір Навіцкі, Міраслаў Семянюк і Ірэна Дроз.

■ 23 сакавіка адбыўся пленум Галоўнага праўлення БГКТ, прысвечаны святкаванню XXX гадавіны Народнай Польшчы. З дакладам на гэту тэму выступіў старшыня ГП Мікалай Самоцік. Удзельнікі пленума прынялі праграму святкавання юбілею нашай дзяржавы. У працы пленума прыняў удзел прадстаўнік грамадскага дэпартамента Міністэрства ўнутраных спраў Вальдэмар Вінярскі і прадстаўнік аддзела ўнутраных спраў ваяводскага ўпраўлення Анатоль Несцяровіч.

■ У Піражках на Сакольшчыне 23 сакавіка выступаў мясцовы тэатральны калектыў з дзвюма пастаноўкамі „Пярэстая Красуля" А. Чужыніна і „Мікітаў лапаць" М. Кудзелькі. Паасобныя ролі выконвалі: Міраслаў Дзмітрук, Веслава Кандратовіч, Рамуальда Кузьміцкая, Ара Алекша, Генрых Кузьміцкі, Пётр Алекша, Віталій Алекша і Яўген Кузьма.

(мх)

# ЗАЛАТЫ СТЫК

У суботу, 23 сакавіка г.г., у прыгранічнай мясцовасці Баброўнікі Беластоцкага павету адбылася нештодзённая ўрачыстасць. Традыцыйным і сімвалічным „залатым стыкам“ спалучаны два адрэзкі газаправода Ваўкавыск-Беласток. Роўна ў дванаццаць гадзін на гранічным мосце ў Баброўніках сустракаюцца польскія і савецкія дэлегацыі. На чале іх сакратары: Ваяводскага камітэта ПАРП у Беластоку — **Міхал Недзведзь** і Абласнога камітэта КПБ у Гродна — **Уладзімір Сямёнаў.**



*Сімвалічны „залаты стык“. На здымку зваршчыкі Уладзімір Апалонаў і Мар'ян Рожэн.*



*Кіраўнікі будовы газаправода дакладваюць прадстаўнікам ваяводскіх улад Гродна і Беластока аб гатоўнасці да „залатога стыку“.*

За сялом сабралася група савецкіх і польскіх будаўнікоў газаправода, жыхары Баброўнікаў, запрошаныя госці. Кіраўнікі брыгад дакладваюць прадстаўнікам улад аб гатоўнасці прыступіць да працы. Да трубы набліжаюцца электразваршчыкі: савецкі — **Уладзімір Апалонаў** і польскі — **Мар'ян Рожэн.** Гучаць маторы. Зіхаціць зварачны агонь. Зваршчыкі працуюць на перамену, а потым разам. Работа закончана. Савецкі прыродны газ у нас, а аб яго прысутнасці сведчыць запалены агонь.

У памяшканні мясцовай школы сустрэча рабочых газаправода з прадстаўнікамі ўлад. За асабліва вялікую працу пры пабудове газаправода Прэзідыум Ваяводскай рады нарадовай прызнаў адзнакі „Заслужаны для Беласточчыны“. Атрымалі іх 8 савецкіх і 11 польскіх рабочых і служачых.

Даўжыня газаправода — 46 кіламетраў з савецкага боку і 51 кіламетр з Баброўнікаў да Беластока. Газаправод пабудаваны вельмі хутка. Работы распачаліся вясною мінулага года, а ўжо ў гэтым годзе Беласточчына атрымае першы прыродны газ. Савецкі газ забяспечыць жыхароў Беластока і беластоцкую прамысловасць. Прадбачваецца, што ў 1985 годзе пастаўка савецкага газу складзе 80 мільёнаў кубаметраў.

Газаправод Ваўкавыск-Беласток — гэта яшчэ адзін прыклад сацыялістычнай інтэграцыі брацкіх краін.

**Тэкст і фота А. Карпюка**

## ЛОК НА ДУБРОЎШЧЫНЕ

У Дуброўскім павеце дзейнічаюць 83 гурткі ЛОК з 2293 членамі. Найактыўнейшымі з іх з'яўляюцца гурткі ў Ліпску, Ялаве, Каменнай Старой, Оршы, Багнах, Ятвезі Вялікай, Карповічах, Гарадзіску, Керсноўцы, Новым Двары, Ягінтах. Найбольш масавымі мерапрыемствамі ЛОК з'яўляюцца стралецкія спаборніцтвы, спаборніцтвы мадэльшчыкаў, сустрэчы з афіцэрамі, дэманстрацыя кінафільмаў на ваенныя тэмы і тэмы самаабароны.

У самой Дуброве актыўна працуе 29-асабовы клуб сувязістаў, які карыстаецца радыёстанцыяй і іншымі апаратамі для сувязі.

ЛОК арганізуе курсы шафёраў, трактарыстаў і іншыя. Карыстаюцца яны вялікім зацікаўленнем перш за ўсё сярод моладзі.

Дуброўскія ЛОК-аўцы актыўныя ў рэалізацыі дарожных чынаў. Найлепш маецца гэта справа ў Ліпску, Няросьне, Ятвезі Вялікай, Рэшкоўцах. (ця)

## КАБ ТАКІХ ЯК НАЙБОЛЬШ

У гміне Чыжы на Гайнаўшчыне з кожным годам павялічваецца колькасць добрых гаспадароў, якія даюць прыклад сваім аднавяскоўцам, як трэба рацыянальна гаспадарыць. У гміне ўжо больш 20 гаспадароў, якія атрымалі званне „ўзорных“. Ёсць ужо і майстры гаспадарнасці. Пакуль што іх толькі трое: Мікалай Дудзіч з Койлаў, які гадуе па 40 штук свіней, Юрка Місеюк з Падрэчан, яго свінаферма налічвае 60 свіней, Міхась Ваўрэнюк, таксама з Падрэчан, таксама мае высокія паказчыкі ў жывёлагадоўлі і ўраджаі сельскагаспадарчых культур. Варта сказаць тут і аб Хведару Кірылюку з Шастакова і Іване Грыгаруку з Койлаў. Яны маюць свае ўласныя птушкафермы, у якіх налічваецца больш як па 10 тыс. курэй, сярод якіх большасць нёсак. (мх)

## ЛЕПШЫЯ Ў МАСТАЎЛЯНАХ

Да лепшых гаспадароў у Мастаўлянах (Беластоцкі павет) залічваюцца: Сяргей Зарэцкі, Сцяпан Зарэцкі, Мікалай Алешчук (с. Івана), Дзмітры Майсей, Сяргей Ляўкоўскі і іншыя. Асноўны націск у сваіх гаспадарках кладуць яны на развіццё жывёлагадоўлі, а перш за ўсё на развіццё гадоўлі быдла. (мх)

# Драмгурткі на XXX-годдзе

Хоць святочны дзень 31 сакавіка 1974 года быў пагодны і вабіў на прагулку, усё ж многія беластаччане з самай раніцы пачалі запаўняць тэатральную залу Галоўнага праўлення БГКТ. І нездарма — тут увесь дзень валодалі сцэнай самадзейнікі, што прыбылі сюды з Беластоцкага, Бельскага, Гайнаўскага і Сакольскага паветаў на традыцыйны ўжо, штогадовы агляд беларускіх тэатральных калектываў.

На аглядзе прысутнічалі дырэктар аддзела культуры і мастацтва Ваяводскага ўпраўлення **А. Гжэськевіч,** намеснік дырэктара аддзела ўнутраных спраў Ваяводскага ўпраўлення **І. Федаровіч,** прадстаўнікі культурных устаноў Беластока, друку і радыё.

Адкрываючы агляд, старшыня ГП БГКТ **М. Самоцік** падкрэсліў, што сёлета гэта адно з асноўных мастацкіх мерапрыемстваў Беларускага грамадска-культурнага таварыства прысвечана юбілею 30-годдзя Народнай Польшчы і высакароднае спаборніцтва калектываў на сцэне напэўна будзе садзейнічаць далейшаму развіццю самадзейнага тэатральнага руху пры гуртках БГКТ.

Сярод немалой колькасці калектываў, якія ў гэтым сезоне дзейнічаюць на Беласточчыне, у выніку селекцыі шэсць было закваліфікавана на беластоцкую сцэну. Як на тэатральную самадзейнасць лік гэта не малы, але журы ў складзе Э. Гудоўскі, Я. Крупа, С. Яновіч пад старшынством М. Гайдука не мела асаблівых цяжкасцей і сумненняў у прызнанні месц паасобным калектывам.

Самадзейнікі з **Паўлаў** Беластоцкага павету паказалі найлепшы ўзровень выканання. Паўлаўскі драмгурток мае ўжо васемнаццацігадовую традыцыю і вялікія мастацкія дасягненні, аб якіх няраз гаварылася на старонках „Нівы“, але ў гэтым годзе на сцэну выйшаў цалкам малады калектыў самадзейнікаў з першай пастаноўкай нядаўна напісанай **С. Яновічам** п'есы **„Не пашанцавала“**. Твор гэты кранае даволі складаныя маральныя праблемы, якія перажывае сучасная гарадская моладзь. П'еса свежая і ўданая, аднак для пастаноўкі нялёгкая. Толькі вельмі амбітны самадзейны калектыў мог на яе адважыцца. Але акцёры з Паўлаў аказаліся на вышыні задання, у чым вялікая заслуга іх вопытнага кіраўніка **В. Мароз.** Калектыў з Паўлаў заваяваў **першае** месца і ўзнагароду ГП БГКТ (1500 зл), а В. Мароз — грашовую ўзнагароду аддзела культуры і мастацтва Ваяводскага ўпраўлення (400 зл).

Самадзейнікі са **Скупава** Гайнаўскага павету пад кіраўніцтвам **Н. Сакоўскай** выступілі з камедыяй **Янкі Купалы „Паўлінка“**. Пастаноўка была на добрым узроўні, хоць у некаторых месцах залішне вострая і гвалтоўная ў жэстах, рухах і голасе. Скупаўскі калектыў заняў **другое** месца і атрымаў узнагароду ГП БГКТ (фатаграфічны апарат вартасцю ў 1476 зл.)

Калектыў з **Катлоў** Бельскага павету паставіў **„Боты“ М. Крапіўніцкага.** Было відаць, што катлоўскія самадзейнікі і іх кіраўнік **Л. Карыцкая** мелі шмат працы і шчырай ахвоты, але што і казаць — на ўстарэлых „Ботах“ далёка не зойдзеш! Калектыў заняў **трэцяе** месца і атрымаў узнагароду ГП БГКТ (праігрывацель вартасцю ў 1350 зл).

Новапаўстаўшы калектыў з **Піражкоў** Сакольскага павету прывёз **„Мікітаў лапаць“ М. Кудзелькі** — твор крыху ўстарэлы і моцна выэксплуатаваны на нашых сцэнах. Драмгурток з Піражкоў і яго кіраўнік **П. Алекша** гуртуе людзей з абяцаючымі здольнасцямі і яму пад сілу творы на больш высокім узроўні. Доказ гэтаму тое, што выканаўца ролі Дар'і — **А. Алекша** атрымала спецыяльную ўзнагароду „Нівы“ для **найлепшага** самадзейнага акцёра! Калектыў жа атрымаў узнагароду ГП БГКТ **за ўдзел** у аглядзе (сокавіроўка вартасцю ў 700 зл).

Два фальклорныя калектывы з дзвюх далёкіх адна ад другой мясцін, бо з **Тапчыкалаў-Грэдалёў** Бельскага павету і з **Меляшкоў** Беластоцкага павету паставілі **„Беларускую вечарынку“**. У абодвух выпадках — колішнія кудзельніцы і ў абедзвюх пастаноўках казачна красачныя, спеўныя і арыгінальныя. Калектывы і іх кіраўнікі зрабілі ўсё магчымае, каб паказаць на сцэне вечарынкі-кудзельніцы „так, як гэта калісьці напраўду было“ і вынеслі прасніцы, верацёны, матавілы, каробачкі, гладышы ды верціхі; сцены, сталы і лавы завешалі і ўслалі ручнікамі, абрусамі, дыванамі ды пасцілкамі, а самі прыбраліся ў арыгінальную колішнюю народную вопратку. І адначасова з тым, як навіваліся ніткі на верацёны, ліліся народныя песні, пераплеценыя легендамі, варожбамі, жартамі. Цудоўныя абразкі! **Абодва калектывы** атрымалі **рэчавыя ўзнагароды** ГП БГКТ (міксеры вартасцю па 800 зл.), а іх кіраўнікі **О. Пракапюк і З. Літвін** — грашовыя (па 300 зл.).

Арганізацыя агляду была спраўная, вяла яго **Валянціна Філіпюк.** Прынёс ён шмат прыемных уражанняў, але і выклікаў шэраг думак, ды аб іх — у іншым нумары „Нівы“.

**Ігнат Снарскі**




**Niedziela 7.IV.**

6.30 Technikum Rolnicze. Chemia. 7.00 Język polski. 7.30 Kurs Rolniczy. 8.15 „Nowoczesność w domu i zagrodzie". 8.40 „Bieg po zdrowie". 8.55 Program dnia. 9.00 TELERANEK. 10.20 „Antena". 10.35 „Piosenka dla Ciebie". 11.20 „W Dolinę Słońca" cz. I. 11.35 Ludowe melodie opolskie. 12.10 Dziennik. 12.25 „Na chłopski rozum". 12.55 „Polska 74" (Bydgoszcz — Warszawie). 13.55 Dla dzieci: „Co to jest?" — konkurs-zabawa. 14.35 „Rzecz o zdrowiu". 15.25 Mistrzostwa Świata w hokeju. Czechosłowacja — Szwecja (II i III tercja). 16.45 Kwadrans tygodnia. 17.00 „Samochód dla najlepszego" — program rozr. 17.30 Program filmowy. 18.20 „Postaw się — nie zastaw się". 19.15 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 „Temat na niewielkie opowiadanie" — film fab. radz.-franc. 21.45 „Przystanek musical" — progr. rozr. 22.30 Inf. mag. sport. 23.30 Dobranoc dla dorosłych.

**Poniedziałek 8.IV.**

12.45 Techn. Roln.: Hodowla zwierząt. 13.25 Matematyka. 15.55 NURT — Ekonomia. 16.15 Program dnia. 16.20 „Oferty". 16.30 Dziennik. 16.40 „Zwierzyniec". 17.30 „Echo stadionu". 17.55 Kurier Maz. 18.10 Ballady śpiewa Stefan Zach. 18.45 „Polonia duńska". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Teatr TV: W. Bieńko — „Wyruszyć o świcie". 21.30 Koncert kameralny. 21.50 „Ex libris". 22.00 Dziennik. 22.15 Mistrzostwa Świata w hokeju. ZSRR — Polska (III tercja). Wiadomości sportowe.

**Wtorek 9.IV.**

6.30 Tech. Roln.: Matematyka. 10.00 Dla szkół: (kl. IV) „Poznajemy Muzeum Rolnictwa". 10.20 „Siedemnaście mgnień wiosny" — film radz. odc. VIII. 13.45 Techn. Roln.: Matematyka. 14.30 Uprawa roślin. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla dzieci. 17.05 „Sezam". 17.35 Dla młodzieży. 18.20 Kronika Warsz. i Maz. 18.40 „Eureka". 19.10 „Przypominamy, radzimy". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 „Siedemnaście mgnień wiosny" — film radz. odc. VIII. 21.30 Mistrz. Świata w hokeju. Polska — Fin. (II i III tercja). Wiadomości sportowe. 23.00 Dziennik.

**Środa 10.IV.**

6.30 Techn. Rol.: Matematyka. 7.00 Uprawa roślin. 7.40 „Mity i rzeczywistość" odc. I. 9.00 Dla szkół: (kl. VII) Chemia — „Zasady". 10.00 Dla szkół: (kl. VII) Fizyka — „Silnik spalinowy". 11.05 Dla szkół: (kl. VII—VIII) Wychowanie plastyczne — „Uroda przedmiotu". 12.00 Dla szkół: (kl. VIII) Historia —„Rok zwycięstwa". 12.45 Tech. Rol.: Fizyka. 13.25 Uprawa roślin. 14.40 Politechnika. Kurs przygot. Fizyka. 15.45 NURT — Pedagogika. 16.15 Progr. dnia. 16.20 „Inf., Tow., Prop.". 16.30 Dziennik. 16.40 Dla młodych widzów. 17.10 Losowanie Małego Lotka. 17.25 Mag. sport. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 „Mity i rzeczywistość" odc. I. 21.45 Sport. 21.50 „Dziś Burza Mózgów". 22.20 Słynne arie o kobietach śpiewa W. Ochman. 22.50 Dziennik. 23.05 Sport.

**Czwartek 11.IV.**

6.30 Tech. Roln.: Fizyka. 7.00 Uprawa roślin. 10.00 „Czas życia" — film fab. NRD. 13.45 Techn. Roln.: Zoologia. 14.30 Hodowla zwierząt. 15.00 Program dnia. 15.05 „Ekran z bratkiem". 15.45 Telereklama. 16.00 Mistrzostwa Świata w hokeju. Polska — NRD. 18.15 Kronika Warsz. i Maz. 18.35 „Poligon". 19.05 TEST — „Eksport". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Niebezpieczne włamanie" — film NRD („Telefon 110"). 21.20 Sport. 21.30 „NATO". 22.00 Koncert z pałacu w Pszczynie. 22.50 Dziennik. 23.05 „Inf., Tow., Prop.".

**Piątek 12.IV.**

6.30 Techn. Rol.: Zoologia. 7.00 Hodowla zwierząt. 9.00 TELEFERIE. 10.15 „Pomyłka aptekarza" — film fab. wł. 11.10 „Malarstwo jaskiniowe" — film dok. węg. 12.45 Techn. Roln.: Język polski. 13.25 Mechanizacja rolnictwa. 14.40 Politechnika. Kurs przygot. Matematyka. 15.45 Red. Szkolna zapowiada. 15.55 NURT — Filozofia. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 „Pora na Telesfora", 17.40 „Turystyka i wypoczynek". 18.00 Telereklama. 18.25 Kronika Warsz. i Maz. 18.45 „Kosmos i Ziemia". 19.15 „Przypominamy, radzimy". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 „Obszar zamknięty" — film fab. 21.05 „Panorama". 21.45 Sport. 21.50 Teatr TV: R. Brandtaetter — „Ludzie z martwej winnicy". 22.45 Dziennik. 23.00 Mistrzostwa Świata w hokeju. Szwecja — ZSRR (III tercja).

**Sobota 13.IV.**

8.55 Program dnia. 9.00 TELEFERIE. 10.25 „Czarna tarcza rodu Folworthów" — film fab. ameryk. 14.00 Progr. dnia. 14.05 Prog. I proponuje. 14.30 Mistrzostwa Świata w hokeju. Polska — Czechosł. 16.45 Dziennik. 16.55 Dla dzieci. 17.15 „Disneyland" — film. 18.05 „Nie tylko dla pań. 18.30 Estrada Poetycka: K. I. Gałczyński — „Pieśni". 18.45 „Godzina Orfeusza". 19.20 Dobranoc. 19.30 Monitor. 20.20 „Czarna tarcza rodu Folworthów" — film fab. ameryk. 22.00 Dziennik. 22.20 Sport. 22.35 Teatr Rozrywki: M. Regnier — „Łowcy głów" wg A. Gillois.




**Piątek, 5 kwietnia**

8.30 Film fab. 15.05 Dla dzieci. 16.15 Film animowany. 17.20 Ludowa artystka ZSRR L. Rżecka. 19.25 Hokej. ZSRR — NRD.

**Sobota, 6 kwietnia**

8.00 Koncert życzeń. 8.25 Przegląd międzynarodowy. 8.55 Film fab. dla dzieci. 12.25 Muzyka. 13.15 W świecie zwierząt. 14.45 Filmy animowane. 15.15 Hokej. Polska — Szwecja. 16.45 Film fab. 18.30 Operetka. 19.30 Balet. 20.20 Hokej ZSRR — Finlandia.

**Niedziela, 7 kwietnia**

11.30 Film fab. 12.50 Progr. międzynarodowy. 13.20 Filmy animowane. 14.25 Hokej. Szwecja — Czechosł. 16.45 Klub film. 17.30 Koncert estradowy. 19.30 Hokej Finlandia — ZSRR.

# БЕЛАВЕЖА

ОРГАН ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ № 183

*

ты была
як кісці вінаграду
з сонцам
з вераснёвай прагай
ты была
як ветраная радасць
не хапіла тут
рукам адвагі
не ўзялі цябе
не прытулілі
вінаграды расплыліся ў далі
лістапады над зямлёю квіляць
жалем
колькі раз
памылкі ў жыцці робім
смеласці замала ці замнога
і сабе
як ворагі мы шкодзім
вінаграду не бярэм за ногі

**Алесь Барскі**



## ЗАПАВЕТ

**Памяці Маці прысвячаю**

Жыцця апошнія хвіліны,
Як свечка, гаснуць уваччу.
Апошні раз з Варшавы сына
Так вельмі ўбачыць я хачу.

Той далікатнае, мястовай,
Не абсталёўвайце труны.
Збудуйце новы дом здаровы
Мне з дошак смаляной сасны.

Не абувайце мне на ногі
Ніякіх чаравік, галёш —
Схадзіла боса ўсе дарогі,
Пайду ў апошню басанож.

А пахавайце ля Мікіты,
Хачу быць разам з мужыком.
Разам усё жыццё пражыта,
Разам нам спаць апошнім сном.

Бывайце, дарагія дзеткі,
І белы свет мой — будзь здароў.
А на магілках часам кветкі
Злажыце, помнячы бацькоў.

**Віктар Швед**

* * *

*Лежачы ў траве, я*
*гоман травяністы*
*чую.*
*Кланяюцца мне*
*у валасы (раззеляніўшы іх)*
*здзяблінь.*
*І з імі я,*
*гамонячы, урываюся*
*у запах*
*луга.*
*І здзёблам я,*
*Травінкай маленькай*
*С т а н а ў л ю с я (і мне здаецца):*
*у ветраным кружку*
*нячутна сам*
*танцую*
*і бягу*

**Юрка Харкевіч**



## ШЧАСЛІВЫ СМЕХ

*Кажуць, смех яшчэ смяшнейшы,*
*Калі смех смяецца сам.*
*І здаешся шмат мілейшы*
*Ты сабе самому сам.*

*На душы цяплей адразу,*
*Не заменіш ні за што.*
*І не верыш, што тым разам,*
*Нібы той — аднак не той.*

*І не хочацца пакінуць*
*І не хочацца забыць.*
*Кожнай цешыцца хвілінай*
*І жыццё мацней любіць.*

*А смех коціцца, нясецца*
*І цячэ праз берагі.*
*Для таго, хто так смяецца,*
*Смех — агеньчык дарагі.*

**Л. Танкевіч**

* * *

пачатак зусім нявінны
некралогі — прозвішчы сяброў
з дзяцінства і маладых год
непрыкметна
— цяжка б'е сэрца на сходах
непрыкметна
— рука з ложкай працягнутая
дрыжыць
упарта дрыжыць
аднолькава
і грудзям паветра мала
і ногі цяжка свінцовыя
між светам і вачыма
— шкляная шыба — кепска відаць
кладуцца думкі не так
усё не так
а прасторы шырокія
звужаюцца раптам
нечакана

**Ірэна Баравік**

*

Зноў зашумяць рэкі,
ручайкі ў полі.
Зноў зашэпчуць травы
сваім шэптам сочным.
Зноў разалье жаваранак
песню серабрысту.
Зноў зазвініць ландыш
белымі званочкамі.
Зноў зацвіце чаромха
над вадой крыніцы.
Зноў зацвітуць вусны,
валасы дзяўчыны...
. . . . . . . . .
. . . . . . . . .
Зноў вясна пройдзе,
зноў яна прыйдзе,
як штогод, як заўсёды.
Шкада толькі... Шкада,
што адна вясна
ў жыцці бывае.

**Юрка Баена**

* * *

Каханне часамі
раве
фабрычным гудком,
часамі
песняй салаўя
ўзлятае
ў маёвую ноч,
часамі жаўруком
звініць у блакіце...
А часамі ёсць толькі
ўздыхам,
або балючым
біццём сэрца,
якога ніхто
не чуе.

**Алесь Свісёк**



## На смерць вепрука

*Па- кашачы заенчылі дзверы —*
*Каморка каўбасой аддыхала:*
*Вяпрук дзве-тры таму нядзелі*
*Раздвоіўся на мяса і на сала,*

*Раз'ехаўся у хаце пад нажамі;*
*Адпала галава, цёплая вантроба*
*Упала ў міску; кот піў кроў, бо*
*Іншае ўсё вышэй ляжала.*

*Кішкі пераліваліся ў балею,*
*У патэльні свежына зрабілася ў скваркі —*
*Ніводнай смерці ў нас няма без чаркі!*
*Наліце шчэ — мы нарадзіліся свінёю.*

*Яшчэ, яшчэ наліце гэтакай атруты,*
*Мы — свінні і без іх нічога мы не варты!*
*Сюды, на стол, вэнджаныя путы,*
*Хай зацалуем сальцасонаў кшталты.*

*А салам мы памажам дзверы,*
*Каб так страшэнна не рыпелі,*
*Бо гэтае рыпенне — не іначай,*
*Гучыць як гімн на смерць свінячу.*

**Ян Чыквін**

## КОРІННЕ МОЛОДОСЬЦІ

У сэлі . . . . . .
там дэ чуты
вэсновы грукот грому,
што росплываецця
над Біловежською пущчою,
Оставыв я
на дэрэвянному порозі
кроплю радосці,
кроплю слёзы,
кроплю кровіе.
І хоч давно йіх высушыло сонце,
но в сэрці
воны завшэ свіежы
. . . . . бо то корінне молодосьці
которэ
сполучае мэнэ —
з руодною зэмлёю.

**Ваня Кірызюк**





*Лодкай новай надзеі*
*плыў да прыстаняў сэрцаў*
*насуперак*
*заглушанай разважнасці*
*рассартаваць пачуцці*
*і адкрыць суперату*
*вяртаўся назад*
*лодкай спадзяванага жалю*
*падзіраўленай на рафах*
*абыякавасці.*

**Кастусь Бандарук**

і кожны раз з дарогі
прыстаўшы ля варот
бацькоўскай хаты
камень ад сэрца
слязою праганяю
не развітаўшыся вітаю
апаленыя ветрам вокны
вокны-вочы
бацькоў маіх іх сівізна
і словы
словы ласкі і спагады
не вышуканыя ў мудрых кніжках
сялянскія ды простыя
да болю зразумелыя
— дзіцятка дарагое

**Вераніка Леанюк**




Зазваніў тэлефон. Рука падняла тэлефонную трубку, у якую трэба гаварыць і цераз якую трэба слухаць, што гаворыць той здалёку.

— Алё, слухаю. Добры дзень. Ага, гэта ты! Ну, што там у цябе добрага: хваліся. Як быкуеш?..

— ...Ай-яй-яй, які абразлівы ты: слова смачнага не сказаць; скачаш, бы заяц у аўсе. Ну, як жывеш?

— ...Ха-ха-ха, ён з Аняй, гэтай кучкай? Што ты кажаш, хо-хо-хо: я і не думаў бы. Ёй жа валасоў трэба дакупіць, каб мела з чаго чуб дзерці...

— ...Што? Я? Скажы свайму тэлефону, хай лясне цябе па дзюбе ад мяне, бусел ты! Я не з тваім характарам...

— ...Не, не злую. Хіба не ведаеш мяне? Ну, бачыш...

— ...Не, не паеду. Нічога цікавага: нахлебчуцца ды палягаюць, а ты хоць на плячах валачы ўсіх у машыну, бы падсвінкаў на базу, да Набіноса. Няхай іх халера выкаціць!..

— ...Ей-богу, не паеду! Бачыш — шукаюць белага негра. О, не! Не...

— ...А-а, гэта дык што другое. Але мушу падумаць... Хто? Дырэктар? Гм, падумаю. Пазваню да цябе. Што гэта я хацеў спытаць?.. Зараз здумаю: забываю, цяжкія дні, работы аж па шыю, аж па... хэ-хэ-хэ... О! Ведаю! Слухай: што робіш у нядзелю?

— ...Так, разумею. Трэба б пагаварыць нам аб той справе... Не, яшчэ не закончана. Можна...

— ...Во, я таксама: рахункі будуць. Так, напэўна. Бажуся на свой апошні пальчык!..

— ...Напэўна; толькі трэба б нам пагутарыць. Добра было б, калі б твая каралева выматалася да сястры. Разумееш? Так, усё такі баба бабаю...





— ...А сёмай? Добра, буду. Га? Якія ногі? Ага, чаму ж не, але з-за цябе не даступіцца, ха-ха-ха...

— ...Куды? У Белавежу. Усё роўна, я не паеду. Я не магу гэтулькі, а яны патрапяць заліць слепнякі, што зубрыцу гатовы пацалаваць у храпу; адважныя — жах глядзець на іх. Памятаеш, як кіраўнік на свінні ў хлеў паехаў? Ха-ха-ха...

— ...Ха-ха-ха, тады, калі запальнічкаю прыкурыў сабе нос. Я думаў, — ката хто наступіў нагою! Калі ўгледзеў яго закопчаны лыч і вочы пакрыўджанага пастуха, ледзьве не памачыўся, гы-гы-гы...

— ...Грошы? Ах, ведаю! Скажу, калі сустрэнемся: па тэлефону не магу, разумееш. Зрэшты, усё адбылося ў лад. У нядзелю раскажу падрабязна...

— ...Не слухай яе: пляце пасталы ліпавыя. Ёй мужчыну нанач — дык была б спакайнейшай. Не дапусці, каб авансавалі яе. Раю табе, як сам сабе. Чуеш? Ой, яна калісь засадзіць цябе на Паўднёвую шашу. Пабачыш, каб я так быў просты, як каровячая нага задняя — каб я вушамі лапаткі чухаў! Не жартую...

— ...Значыць, да нядзелі. Прыйду мо крыху раней. Прынясу сёе-тое да пілавання, каб зубы не заіржавелі ад гаворкі. Кажаш, не трэба? Трэба, трэба: цыбуляю закусваць брыдка пры свяце. Даму сэрца сваю, разумееш, неяк парыцарску вымахлюй на гадзіну хоць, або накіруй яе на распусту ў тэатр які-небудзь...

— ...Трымайся, бандзіт! Да пабачэння.

— ...Ха-ха-ха...

Рука паклала тэлефонную трубку.

**Сакрат Яновіч**

## Конкурс для настаўнікаў

З нагоды 30-годдзя ПНР па ініцыятыве Ваяводскай педагагічнай бібліятэкі ў Беластоку абвешчан конкурс на працы:

— „Мая дарога да эфектыўнай вучэбна-выхаваўчай працы ў школе і ў асяроддзі“

— „Мой вопыт у галіне мадэрнізацыі зместу, метадаў і сродкаў арганізацыі навучання і выхавання“.

У конкурсе могуць удзельнічаць настаўнікі і выхаваўцы ўсіх школ і асветна-выхаваўчых пляцовак.

Неабходнай умовай прыняцця ўдзелу ў конкурсе з'яўляецца праца на адну з пададзеных тэм у размеры ад 5 да 15 старонак машынапісу.

Адказы на конкурс, падпісаныя псеўданімам, разам з залакаваным канвертам, у якім знаходзіцца імя, прозвішча і адрас аўтара, неабходна дасылаць па адрасу:

Pedagogiczna Biblioteka Wojewódzka, 15-087 Białystok, ul. Kościelna 9.

да 1 лістапада 1974 года.

Дадатковыя інфармацыі і парады даюць павятовыя педагагічныя бібліятэкі і Ваяводская педагагічная бібліятэка (пісьмова або па тэлефону 7477). (яз)

Пачатак на стар. 1

## У ДАРОЖКАХ ДОБРА ЖЫВУЦЬ



*Старшыня дарожкаўскай спулдзельні Аляксандр Вішнеўскі чытае справаздачу аб дзейнасці гэтай калектыўнай гаспадаркі за 1973 год.*

дарожкаўскай спулдзельні прадукцыйнай за 1973 год. Лікі... лікі... лікі... а кожны з іх вельмі важны, кожны адлюстроўвае вялікае багацце, накопленае супольнай, добра наладжанай і прадуманай працай. Спулдзельня прадукцыйная ў Дарожках існуе ўжо 22 гады. Цяпер аб'ядноўвае яна звыш 40 членаў, якія за гэты час дапрацаваліся супольнай трывалай маёмасці вартасцю амаль у 18 мільёнаў зл. Іх чысты даход за мінулы год склаў велізарную суму 2 мільёны 213 тысяч злотых.

Скончыўшы ўсе пералікі, старшыня адарваў вочы ад паперы, а на яго вуснах паявілася загадачная ўсмешка.

— Мы маглі б і больш чым 100 зл. прызначыць на адзін працадзень, бо грошай у нас хапала. Амаль 600 тысяч злотых адклалі мы на запас, на худыя гады. Дарэчы, у банку на нашым конце маем ужо столькі капіталу, што можам спакойна перажыць самы люты трохгадовы неўраджай.

Да гэтага трэба яшчэ дадаць, што дарожкаўская спулдзельня прызначыла грошы на бясплатную замежную экскурсію для двух сваіх членаў, што ў сваім бюджэце прадбачыла яна некалькі тысяч залатовак на святкаванне Дня жанчын, Першамая і юбілейнага Дня адраджэння.

— І на сённяшняе свята мы не паскупіліся, — заявіў старшыня. — Закалолі першакласнага парсюка і зарэзалі такую ж цялушку...

...І пачаўся тады гэты баль мільянераў... А неўзабаве грымнулі песні. Ад душы... Аж вокны дрыжалі. „Распрагайце, хлопцы, коні...“, „Шумел камыш...“, „Гуралю, чы ці не жаль...“, „Шла дзевэчка...“. Болей сучасны рэпертуар, узмоцнены рэпрадуктарамі, прадэманстравалі маладзенькія дзяўчаты з Астраўкоў: Аня і Галена Рамановіч і іх сяброўка Крыся Івановіч. Старшыня Вішнеўскі пераўтварыўся ў дырыжора. Спулдзельчы рахункавод Тацяна Шпіца пільна даглядала, каб рэгулярна запаўняліся талеркі самымі лепшымі прысмакамі, а яе муж, інжынер Мікалай Шпіца, па службе кіраўнік спулдзельчай прадукцыі, шчыра напаўняў кілішкі...

І я там быў, і за каўнер не выліваў...

**Віктар Рудчык**
**фота аўтара**



*Ля ўваходу расселіся жанчыны.*



*Трыё Аня і Галена Рамановіч і іх сяброўка Крыся Івановіч з Астраўкоў. Працуюць яны на птушкаферме.*

## ГРАМАДСКІМ ЧЫНАМ

У мінулым 1973 годзе жыхары гміны Орля Бельскага павету выканалі грамадскім чынам працы вартасцю ў звыш 3 мільёны злотых, у тым ліку пры рамонце і будове дарог на 1 мільён 400 тысяч злотых. Пашкоўшчына і Шэрні пабудавалі ладную жвіраваную дарогу паміж сваімі вёскамі, а Маліннікі закончылі будову проціпажарнай рамізы, дзе знаходзіцца цяпер гараж і прасторная святліца.

Не менш актыўныя жыхары Арлянскай гміны і сёлета. Як паведаміў сакратар гміннага ўпраўлення **Міхаіл Дзем'янюк**, прадбачваецца, што ў 1974 годзе будуць выкананы грамадскія працы вартасцю ў 3,5 мільёна злотых. Плануецца пабудаваць або адрамантаваць 5,5 км дарог, перабудаваць масты, пабудаваць 3 проціпажарныя басейны. Жыхары Міклашоў закончаць пабудову сваёй святліцы, пачнуць жа будаваць святліцы Крывая, Пашкоўшчына і Чэхі Забалотныя. Тратуары будуць паложаны ў Крывой, Крывяцічах і Рэдутах. Крывяцічы ўжо маюць нарыхтаваны матэрыял для пракладкі тратуараў. Будзе зроблена асвятленне вуліц у вёсках Маліннікі і Шэрні.

Не адстануць ад навакольных вёсак і жыхары мястэчка Орля. У гэтым годзе яны будуць заняты перабудовай вуліцы Чырвонай Арміі. Каштарыс прадбачвае працы і матэрыялы на суму 4,5 мільёна злотых. Гміннае ўпраўленне на гэта прызначае 700 тыс. злотых, будуць таксама грошы з павятовага ўпраўлення. Аднак многа працы мусіць унесці грамадства мястэчка. Вуліца атрымае падземнае адвадненне, асфальтаваную паверхню, тратуары, скверыкі з кветкамі і дрэвамі. (іс)

### ГАЙНАЎСКІЯ СУВЯЗІСТЫ АТРЫМАЮЦЬ АЎТАМАТЫЧНУЮ ЦЭНТРАЛЮ

У Гайнаўцы пабудаваны ўжо новы мураваны будынак аўтаматычнай цэнтралі. Неўзабаве будзе ў ім абсталявана аўтаматычная цэнтраля, якая намнога аблегчыць працу тэлефаністкам. (ця)

## БЕЛАВЕЖА ПЕРАД СЕЗОНАМ

У пачатку 1974 года ў Белавежы не было снегу. Папулярную гэту мясцовасць наведала ў І квартале 2,5 тыс. экскурсантаў. Гэта менш, чым прыязджае іх сюды толькі ў адну цёплую летнюю нядзелю. Было мала замежных турыстаў. У студзені і лютым прыехала іх крышку больш, як 100 асоб. Былі з Манголіі, ГДР, Францыі, Венгрыі, ЗША.

Турысцкае бюро ПТТК у Белавежы прадбачыць, што большы рух пачнецца ўжо ў другой палове красавіка. Аднак спецыялісты кажуць, што турыстаў не будзе больш, чым у мінулым годзе, г. зн. каля 150 тыс. асоб. Таму ёсць надзея, што не будзе вялікіх клопатаў з начлегам і харчаваннем, як гэта было ў мінулыя гады.

На новы летні сезон падрыхтавалі ў Белавежы каля 1 тыс. месц у гасцініцах, на начлежных базах і прыватных кватэрах. Лепш будзе з экскурсаводамі. Ужо на весну іх пабольшае на 12 чалавек.

На жаль, далей будзе цяжка з выдавецтвамі і інфарматарамі пра Белавежу на замежных мовах. Ніхто не зможа купіць таксама памятнай пячаткі ці значка з зубром, бо іх не будзе. Не найлепш маецца справа сувеніраў з дрэва. Ізноў будуць толькі брошкі і відочкі.

**Пётр Байко**

Беларуская літаратура — Аляксандр Баршчэўскі

## НАШАНІЎСКАЯ ПАРА

### ЦЁТКА — ЧАСТКА IX

**Пазітывістычныя вершы.** Пазітывістычная тэндэнцыя гіне з творчасці Цёткі ў 1905 г., уступаючы месца тэндэнцыі рэвалюцыйнай. Аднак у 1906 годзе пазітывістычныя матывы зноў адродзяцца ў творчасці паэтэсы. Ужо ў 1906 годзе паявіліся сімптомы, якія сведчылі аб упадку рэвалюцыйнага парыву. Цётка ў гэты час знаходзіцца па-за межамі Расійскай імперыі. Балюча перажывае крах рэвалюцыі. Разам са смерцю рэвалюцыі ўмірала надзея паэтэсы на хуткае вызваленне айчыны, але не ўмірала любоў да яе. У далейшым усе свае вершы прысвячала Беларусі, аднак ужо не рэвалюцыйны запал акрэслівае іх змест. Праўда, у некаторых творах, напісаных у пачатку 1906 г., засталіся яшчэ пэўныя элементы бунтарных настрояў. Прыкладам могуць быць вершы „Суседзям у няволі“, „У дарогу“, „Мае думкі“, „Бура ідзе“. Усе гэтыя вершы, апрача верша „Бура ідзе“, утрыманы ў рамках пазітывістычных прынцыпаў, аднак у іх заключэннях блукае яшчэ рэха рэвалюцыйнага парыву. Паэтэса гаворыць аб барацьбе з катам, аб тым, што крэпне яе „свабодны дух“. Паяўляюцца аднак ужо настроі расчаравання і сумненняў. У вершы „Мае думкі“ паэтэса атоесамліваецца з ветрам, які з'яўляецца сімвалам рэвалюцыйнай буры. У вершы праяўляецца не толькі смуткаванне з прычыны ўпадку рэвалюцыі, але і матыў дакору ў свой адрас і ў адрас беларускага народу, якога не ўдалося ветру-паэтэсе падняць на рэвалюцыйны пачын.

„Я — пасланец, вецер буйны,
Прыляцеў на суд вас зваць!
У нас цёмна, край наш хмурны,
Ад цямноты людзі спяць.
Я там біўся, я там віўся,
Я ім хаты паламаў,
А ўсё ж такі не дабіўся,
Каб народ свой голас даў“.

(„Мае думкі“)

У 1906 годзе піша Цётка толькі адзін рэвалюцыйны верш. Такім творам з'яўляецца верш „Бура ідзе“. У гэтым вершы Цётка вярнулася да сваіх любімых прыёмаў, якія акрэслілі ўсю яе рэвалюцыйную лірыку. Вецер, град, бура — гэта тыя рэквізіты, якімі паэтэса заўсёды карысталася ў сваіх паэтычных рэвалюцыйных спектаклях. Усе далейшыя вершы, напісаныя ў 1906 годзе, а таксама ў наступныя гады аж да першай сусветнай вайны, утрыманы ў нормах пазітывістычнай ідэалогіі і стылістыкі. Да вершаў гэтых належаць: „На магіле“, „Скрыпка“, „Артыст-грайка“, „Сынок маленькі“, „Родная вёска“, „Мой сад“, „Лес“, „Наш палетак“, „На чужой старонцы“, „З новым годам“, „Вясковым кабетам“, „Скора прыдзе вясна“, „З чужыны“, „Грайка“, „Гаданне“, „Лучынка“, „Сірацінка“.

Трэба адзначыць, што пазітывізм гэтых вершаў адрозніваецца ад таго, які выступіў у вершах, напісаных у 1902 і 1903 гадах. У ранніх вершах дамінавала ідэалізацыя жыцця беларускай вёскі. У названых вышэй вершах прыём гэты па сутнасці не выступае. Выключэннем з'яўляюцца два вершы: „Наш палетак“ і „Скора прыдзе вясна“. У гэтых творах, так як у ранніх вершах, праяўляецца ідэалізацыя згоднай сялянскай працы, якая, па думцы паэтэсы, можа прывесці да рашучага паляпшэння сялянскага жыцця. Такім чынам, праяўляецца ў гэтых творах тыповая для пазітывізму фетышызацыя працы.

У іншых вершах паявіўся моцны матыў захаплення роднай прыродай. Матыў гэты часта спалучаецца з матывам любві да айчыны. Да вершаў прыродаапісальных і патрыятычных трэба залічыць: „Родная вёска“, „Мой сад“, „Лес“, „На чужой старонцы“, „З чужыны“. І тут можам гаварыць аб наяўнасці прыёму ідэалізацыі. Родная прырода, выгляд палёў, характар беларускіх лясоў, рэкі ў Беларусі, — усё гэта здаецца паэтэсе выключна прыгожым, прывабным, незабыўным. Усе вершы гэтага цыкла былі напісаны за мяжой. Расстанне з радзімай і немагчымасць кантакту з раднёй паглыблялі ў сэрцы паэтэсы смутак. Нічога дзіўнага, што здалёк Беларусь здавалася паэтэсе краем выключнай прыгажосці. Прыпаміналa ёй і дзяцінства, і маладосць, і родную хату, і бацькоў, і знаёмых. Пералічаныя вершы — гэта класічныя ўзоры лірыкі ўспамінаў, якая заўсёды характарызуецца глыбокай эмацыянальнасцю.

Да трэцяга тэматычнага цыкла трэба залічыць вершы: „Вясковым кабетам“, „Сынок маладзенькі“, „Сірацінка“. У гэтых вершах дамінуе тыпова пазітывістычны матыў жыцця жанчыны і дзіцяці. Толькі адзін з гэтых вершаў „Сынок маленькі“ гучыць аптымістычна. Паэтэса гаворыць у творы аб дапытлівасці хлопчыка, які прагне вучыцца. Два другія вершы маюць характар спачування Цёткі нешчаслівым, замучаным цяжкім жыццём беларускім жанчынам і дзіцяці-сіраце.

 

## Паяднаўчая камісія

**Часам дробныя штодзённыя суседскія непаразуменні дакучаюць людзям больш, чым нейкія вялікія нявырашаныя пытанні. Вось гэтымі нервуючымі, хаця на першы погляд маленькімі справамі, і займаюцца грамадскія паяднаўчыя камісіі. У гміне Чыжы такую 8-асабовую камісію ўзначальвае Мікалай Паплаўскі. У 1973 годзе яна аформіла 8 спраў. Усе яны датычыліся міжлюдскіх адносін і вырашаны былі так, каб былі задаволены абодва бакі. (мх)**

## ДА НАС ПІШУЦЬ — АДКАЗВАЕМ

**Паважаная рэдакцыя!**

Адкажыце, калі можаце, ці Тарас Бульба — гэта толькі фікцыя (выдумка) М. Гогаля, ці то і сапраўды жыў такі атаман на Украіне?

**З** паважаннем М. Панфілюк, Дубічы Царкоўныя, Гайнаўскі павет.

Мікалай Гогаль, вельмі цікавіўся мінулым Расіі і Украіны, а ў 1833 г. нават рашыў прысвяціць сябе навуковай і педагагічнай працы ў гэтым напрамку. У 1834 г. ён атрымаў пасаду ад'юнкт-прафесара на кафедры агульнай гісторыі Пецярбургскага універсітэта і заняўся вывучэннем прац, асабліва тых, што адносіліся да гісторыі Украіны. Праўда, ужо ў 1835 г. М. В. Гогаль зракаецца з прафесарскай пасады, але з таго часу застаецца ў яго задума „Тараса Бульбы" і іншых твораў. Герой аповесці, атаман Тарас Бульба, не з'яўляецца праўдзівай гістарычнай асобай. Пісьменнік у даным выпадку не імкнуўся паказаць канкрэтнага чалавека, ён стварыў мастацкі зборны вобраз казацкага героя з перыяду вызваленчай барацьбы ўкраінскага народа ў XVI — XVII стагоддзях. Таму постаць Тараса Бульбы ўвабрала ў сябе ўсе самыя адметныя рысы тагачаснага ўкраінскага народнага барацьбіта-казака, пра якога М. Гогаль пісаў у адным з артыкулаў: „Упарты, непрымірымы, ён спяшаецца ў стэпы, у вольніцу сяброў. Яго жонку, матку, сястру, братоў — усё замяняе ватага гуллівых рыцараў набегаў. Вузы гэтага брацтва яму вышэй за ўсё, мацней кахання".




## Аб'ектывам з-за куста

Маюць сваё свята шахцёры, лекары, дзеці і ліха яго ведае хто яшчэ — прызналі такі дзень і леснікам. Выпадае ён якраз тады, калі ўсё будзіцца пасля зімовае спячкі.

Не дзівота таму, што з першымі праменнямі веснавога сонца прачнуўся і наш фотарэпарцёр. Прачнуўся, пазяхнуў разоў пару, падцягнуў порткі і з усімі сваімі прыладамі рушыў у лес. Надумаўся ён панаглядаць за жыццём працаўнікоў лесу ў іх уласнай стыхіі. Так сказаць, з-за куста. Вярнуўшыся, вылажыў на рэдакцыйны стол плён сваёй працы — некалькі згорача спісаных думак, пацверджаных дакументальнымі здымкамі.

Вось яны:

1) Абавязкова трэба ў лесніکі перакваліфікавацца. Гэта табе не рэдакцыя. Ніякіх тэлефонаў, толькі дзятлы дзюбамі па ствалах свае весткі марзянкай адстукваюць. І магнетафону за сабою валачыць не трэба. Свая тут музыка, што крок то новы хор птушыны. Ну, а ўжо на начальства там усялякае, дык зусім можна не звяртаць увагі. Ніколі не знойдуць — гэта калі ў добры гушчар запрэшся.

Адным словам, лічы сабе шышкі на сасне, на здароўе, або спі спакойна, а лес... лес, ён, міленькія, і сам расце.

2) Поўнага шчасця, на жаль, у жыцці не сустрэнеш. Нават леснікам і тым здараецца часамі вяртацца дахаты. А дома, вядома, звычайныя справы. Пры жонцы найбольш строгі надляснічы, толькі скромным дрывасекам, а пра меншых рангам і гаварыць няма што.







3) За свежанінай тут ніякай чаргі не бывае. Евангелію толькі ведаць трэба. „Шукайце, а знойдзеце" — там выразна напісана. Сваім, лясным, значыцца, ўсё проста. Напрактыкаваныя яны ўжо. У іх і нюх выпрацаваны і падыход адпаведны. А чужак, — паспрабуй разбярыся. Ну, хоць таблічкі бы якія панавешвалі — што напаказ толькі, запаветнае, значыцца, а што яшчэ выкарыстанае быць можа. Гэта аднак не трагедыя. Нездарма пагаворка кажа: ваўкоў баяцца — у лес не хадзіць.

**Ларс**
**Здымкі Ц. Я.**

P.S.

Што атрымалі — тое друкавалі. Больш ні слова нам з яго выцягнуць не ўдалося. Ды і ў рэдакцыі ён амаль цяпер не бывае. Самі не ведаем, ці гэта яму пад якою хвойкаю не сон, прыпадкам, прысніўся.

Ходзяць чуткі аднак, што членам у паляўнічы гурток запісаўся, і што не пазней, чым наступнай вясною дубальтоўку сабе купляць будзе. Пачакаем. А мо што падстрэліць?




Калі мы, як ваяводства, хочам многа браць з агульнадзяржаўнага прыбытку — прапарцыянальна многа павінны і даваць. А даваць можам многа ў галіне прадукцыі мяса. Маем для гэтага натуральныя ўмовы. Апрацавана ўжо ваяводская праграма дынамічнага развіцця жывёла- і свінагадоўлі ў нашым ваяводстве. Паасобныя паветы апрацавалі канкрэтныя планы на бліжэйшыя гады.

У **Бельскім павеце**, сказаў сакратар павятовага камітэта ПАРП **Анджэй Завадскі,** не прадбачваецца асаблівых цяжкасцей. Не толькі ў індывідуальных гаспадароў, будзе шырока развівацца свінагадоўля і ў „кулковых" фермах. Адна з іх на 600 штук свіней працуе ў **Дубне.** Тут жа праводзіцца адаптацыя паспулдзельчай клуні, у якой будзе весціся так званае летняе адкормліванне прынамсі тысячы свіней.

Адкормачны цэнтр свіней распачынае таксама працу ў **Шасталах.** У паспулдзельчых памяшканнях, спецыяльна прыстасаваных, будзе адкормлівацца 600 свіней, а апрача гэтага тут пабудуецца хлеўня з імераўскіх элементаў таксама на 600 свіней.

Да канца 1975 года ў **Шчытах** таксама пабудуецца адкормачны цэнтр на 1200 свіней, які дасць прадукцыю ў пачатку 1975 года.

Апрача таго, уводзяцца іншыя формы свінагадоўлі. Сельгасгурткі ў **Старовсі, Піліках, Лубіне Касцельным** і ў **Аўгустове** будуць весці адкормліванне па 400 свіней у летні перыяд.

Зразумела, што сельгасгурток ці іншая арганізацыя, каб займацца адкормліваннем, павінна мець не толькі кармавыя натуральныя ўмовы, але і памяшканні. Як сцвярджаюць спецыялісты Бельскага павету, ёсць магчымасці танным коштам пабудаваць памяшканні для летняга адкормлівання. У павятовым праўленні сельгасгурткоў апрацаваны праект такіх памяшканняў.

Летняе адкормліванне свіней — гэта вельмі простая, танная форма прадукцыі мяса, а шкада, што занядбаная. Гаспадар **Зыгмунт Гурскі з Тапчэва** ў мінулае лета прадаў 300 кормнікаў з летняга адкормлівання. Усё гэта адбывалася ў старой, саломаю крытай клуні, ў якой можна змясціць 110 парасят. Маладыя перадавікі жывёлагадоўлі, якім арганізавалі экскурсію да Гурскага, былі захоплены гэтым простым спосабам свінагадоўлі. Сам гаспадар расказаў ім, што меў аблёгчаную справу настолькі, што ГС пастаўляў яму на месца корм, лекар вёў ветэрынарную апеку, на месцы забіралі тавар. Эканаміст падлічыў, што прыбытак Гурскага з сезоннага адкорму быў не меншы, чым 120 тысяч злотых, а гаспадар паправіў, што нават крыху больш.

У Бельскім павеце работа так арганізавана, каб магчы яшчэ ў гэтым годзе даць з фермаў прынамсі 5 тысяч свіней.

**А. Карпюк**

## Жыллёвы кааператыў у Дуброве

Жыллёвы кааператыў у Дуброве мае свае жылыя будынкі на вуліцах 1000-годдзя Польскай дзяржавы і Паўднёвай. Зараз у кааператыўных кватэрах жыве 145 сем'яў. Наступныя 80 сем'яў атрымаюць кватэры ў пачатку 1976 года. На жыллёвым пасёлку адкрываюцца з кожным годам усё новыя паслуговыя цэнтры: цырульні, пральні, гандлёвыя павільёны. На пасёлку ёсць святліца, якая добра служыць усім: дзецям і дарослым. Для дабра кааператыва грамадска шмат працуюць: Марыя Кульгавік, Тадэуш Кульгавік, Станіслава Марчак, Тэрэса Санік, Зося Копэць, Станіслаў Ольбрыс, Чэслава Крыштаповіч, Ян Шабала і Станіслаў Мараўскі. Актывісты паклапаціліся, між іншым, пра належнае загаспадараванне пляцаў паміж жылымі „блокамі", пра пасадку дрэўцаў, кустарнікаў, кветак, пра лавачкі. (ця)

### БУДЗЕ ВЯЛІКАЯ БРАЙЛЕРНЯ Ў РЫБАЛАХ

На паверхні звыш сямідзесяці гектараў будзе пабудавана ў Рыбалах Бельскага павету адна з найбольшых у нашай краіне брайлерня. Агульны кошт яе будовы 220 мільёнаў злотых.

Ужо сёлета распачнецца будова курнікаў. Курынае прадпрыемства будзе дастаўляць на рынак каля 2,5 мільёнаў брайлераў. (ця)

**ХТО РОДНАГА КРАЮ ЦУРАЕЦЦА, ТОЙ І МАТКІ СВАЁЙ АДЦУРАЕЦЦА.**

## Клейнікі рушылі

Клейнікі, што ў Гайнаўскім павеце, — вёска вялікая, але дагэтуль у ёй не было адпаведнага месца на святліцу. У старым драўляным будынку, памятаючым яшчэ „бацюшку цара", дзе раней памяшчалася школа, у трох невялікіх пакойчыках цесніліся бібліятэка, клуб і святліца. Няма чаго і казаць, што ў такіх умовах выпіць каву, пачытаць, паглядзець тэлевізар ці паслухаць прыехаўшага лектара было немагчыма. Таму ў гэтым годзе гміннае ўпраўленне ў Чыжах рашыла правесці капітальны рамонт гэтага аб'екту коштам 80 тысяч злотых.

Але гэта толькі добры пачатак зруху, што наступіў цяпер у Клейніках. Нядаўна гэта вёска патрабавала ад павятовага ўпраўлення эксплуатацыі дарог у Бельску Падляшскім і спагнала належныя ёй 200 тысяч злотых за жвір, што дагэтуль брала гэтае прадпрыемства з грамадскай клейніцкай жвіроўні. Сума не малая, а будзе яна з году ў год павялічвацца, бо павятовае ўпраўленне не адраклося ад клейніцкага жвіру і будзе плаціць каля 100 тысяч злотых у год за карыстанне з жвіроўні. Немалы гэты грош жыхары Клейнік рашылі накіраваць на пабудову проціпажарнай рамізы, у якой былі б адпаведныя памяшканні таксама на святліцу і клуб. Ужо стварылі яны грамадскі камітэт пабудовы пад старшынством **Васіля Купрыяновіча.** Ужо адкрылі свой банкаўскі рахунак, а павятовае праўленне дабраахвотных проціпажарных каманд у Гайнаўцы звярнулася да адпаведных дзяржаўных устаноў з просьбай аб ліквідацыі рамізы.

Клейнічане не толькі спадзяюцца на грошы са жвіроўні, яны таксама будуць прымаць удзел у грамадскім чыне пры пабудове такога важнага для вёскі аб'екту. (іс)




**„Бяздомныя ключы"**

Выйшаў з друку другі зборнік вершаў беластоцкага паэта Тадэвуша Антонія Маславецкага „Бяздомныя ключы".

Маславецкі, з Лявіцкіх ля Беластока, сардэчна закаханы ў пейзаж роднага краю.

У вершы „Раніца ў Беластоку" з вялікай цеплынёю намаляваны вобраз селяніна, што „прывёз пад уласным небам палі і лясы, і белую царкву". Паэтычныя зацікаўленні аўтара „Бяздомных ключоў" надта markbаковыя. Ён захапляецца роднай прыродай, задумоўваецца над лёсам Радзімы, аглядаецца ў яе гістарычнае мінулае, робіць спробы заглянуць у будучае. Урэшце спыняецца Маславецкі пасярод расквечанага луга, каб у цярплівай цішы падумаць аб чалавеку, аб сэнсе жыцця. Гэта адвечная і ўніверсальная тэма знаходзіць у яго своеасаблівую афарбоўку: Маславецкі схільны даверыцца толькі душы, узгадаванай на ўлонні няхітрай шчырасці. Верыць прастадушшу, косіцца на чалавека, які не ўмее або не хоча пакутваць, каб даказаць сваю праўду, рацыю. Тут гучаць ноткі трагічнасці.

Ад „Бяздомных ключоў" цягне нейкім смуткам, нейкім расчараваннем... Як кожная паэзія, так і вершы Маславецкага, несумненна, з'яўляюцца як бы дзённікам ягонага духоўнага і маральнага побыту. Жыццё паэта, заблытанае ў апошнія гады, знайшло ў гэтай кніжачцы сваю мастацкую шыфроўку. Хтосьці калісьці сказаў, што сапраўдны паэт не можа адчуваць сябе шчаслівым. І сапраўды, самыя моцныя ў Маславецкага тыя вершы, у якіх гаворыць ён пра справы сумныя, праклятыя лёсам.

Трэба дадаць, што Т. А. Маславецкі шчыра зацікаўлены беларускай культурай, нашай мовай і побытам, з чым сутыкаўся ад дзяцінства. Нарадзіўся ён і вырас на польска-беларускім этнічным пагранiччы, на Лявіцкім хутары.

**Сакрат Яновіч**



 

 



# ВЫКЛЮЧНА РЭДКАЯ ЗНАХОДКА

Яшчэ не так даўно, прыблізна да паловы нашага стагоддзя, у этнаграфічнай навуцы лічылася, што да цяглавых ворных прыладаў ад найдаўнейшых часоў, належалі толькі рала, саха і плуг. Плуг на працягу вякоў, удасканальваючыся тэхнічна, захаваўся аж да нашага часу. Аднак, дзякуючы вельмі рэдкім знаходкам і іканаграфічным крыніцам з розных вякоў, цяпер устаноўлена, што поруч з пералічанымі вышэй ворнымі прыладамі існавала ў Еўропе яшчэ і чацвёртая прылада, якая была найбольш распаўсюджана ў славян і менавіта ў тых, у якіх найважнейшую ролю ў апрацоўцы зямлі адыгрывала саха. Зразумела, у кожнай краіне гэта прылада мела сваю нацыянальную назву, этымалогія якой выплывала з функцыянальнай ролі прадмета. І так, напрыклад, у славакаў называлася „ріcc“, у югаславян „рэзало“, у палякаў „пшэдкруй“ (пераклад з ням. мовы „Форшнэйдэр“, а мо немцы запазычылі ад палякаў? Справа нявыяснена), у беларусаў „раза.:“ і г.д. Аднак найбольш правідловую назву мела гэта прылада ў гайнаўскіх беларусаў. Называлі яе тут „н а р э з н і к“.

Як убачым далей, прызначэннем гэтай прылады было нарэзванне паясоў зямлі перад ворывам.

Паводле археалагічных і этнаграфічных даных, нарэзнік мог паяўляцца як дапаможная ворная прылада ў розных краінах Еўропы, у розныя гістарычныя часы. Дапускаецца, што на польскіх этнічных абшарах „пшэдкруй“ паявіўся ў пару пашырэння тут плужнай прылады, г. зн. каля XIII ст. На беларускіх землях, а таксама і суседніх — у пару пашырэння тут сахі.

На Падляшшы, як і на беларускіх паўднёвых землях, аж да паловы XIX стагоддзя адзінай ворнай прыладай была двухпаліцовая (палеская) саха, якой нярэдка спадарожнічаў нарэзнік. Рала паступова выходзіла з карыстання ў сялянскіх гаспадарках, бо ў выніку сямейных падзелаў сялянскія нівы вузелі, там нельга было выконваць папярэчнага ралення. Найдаўжэй выкарыстоўвалася рала ў абшарніцкіх гаспадарках, бо аж да распаўсюджання фабрычнай земляробскай тэхнікі.

У сувязі з распаўсюджаннем бульбы ў сялянскіх гаспадарках, што прыпадае на XIX ст., рала часткова зноў „аджывае“, але ўжо ў іншай функцыі. Яно выконвае ролю т. зв. сошкі для аборвання бульбы. У многіх мясцовасцях Беласточчыны сошка захавалася да нашых дзён.

Нарэзнік быў неабходнай прыладай перш за ўсё пры распрацоўцы цаліны, лядаў і лугоў. Ён перарэзваў карэнне травы, пустазелля і зараснікоў. У такую прыладу далей запрагалі пару валоў, а пазней пару коней, альбо аднаго, але моцнага.

Цаліну, прызначаную для распрацоўкі пад пасяўное ўгоддзе, нарэзвалі на паясы шырынёй сошнай баразны. Пасля гэтай уступнай працэдуры ішла двухпаліцовая (палеская), а на паўночнаўсходніх беларускіх і суседніх абшарах — перакладная саха (з перакладной паліцай, па-польску — лопаткова). Саха паднімала скібы нарэзанай цаліны і пераварочвала, як сучасны плуг.

Такую вось дапаможную, але канструкцыйна самастойную ворную прыладу, якую бачым на фота, правідлова названую „нарэзнік“, пашчэнсціла мне знайсці сярод іншых этнаграфічных прадметаў у в. Стары Корнін, што на Гайнаўшчыне, у сялібе сімпатычнага селяніна Уладзіміра Шэшко, падчас этнаграфічнай разведкі, якую праводзіў я ў 1965 годзе.

Нарэзнік, як бачым, зроблены з дрэва і жалеза. Драўляны корпус з раздвоенымі дзвюма ручкамі, закрыўленымі ўверх, мае натуральную форму. Найважнейшая палова гэтай прылады, працуючай, зроблена з завостранага жалеза і ў корпус умантавана ў двух месцах. На пярэдняй частцы корпуса прывінчаны крук для зачэплівання ворчыка альбо стальвагі.

Паводле інфармацыі Ул. Шэшко, прадстаўленую на фота прыладу зрабіў яго бацька Кірыла Шэшко прыблізна каля 1904—5 года.

Гэта рэдкая ў нашы часы, а можа і ўнікальная знаходка чацвертай ворнай прылады знаходзіцца, паводле вядомых звестак, толькі ў фондах Этнаграфічнага музея ў Торуні. Іншыя музеі ў Польшчы ідэнтычнай, альбо па канструкцыі падобнай земляробскай прылады не маюць.

**М. Пецюкевіч,**
Торунь




**СПОРТ У НАШАЙ ВЁСЦЫ**

Спорт у нашай вёсцы
Вельмі развіваецца,
Бо ўсе маладыя хлопцы
На стадыёне сустракаюцца.

Коля Будка рэй тут водзіць,
Ззаду ён не адстае,
Зграбна мячык пераймае
І ўперад падае.

Пры варотах ўжо чакае
Генік, што з калёніі,
Хутка мяч ён забівае,
Бо яму няма роўні.

Ваня ў варотах скача,
Нібы рыба ў рацэ,
Няма сіл злавіць мяча,
Мяч яму з рук уцячэ.

А Валодзя — той Фадзей,
Дай яму ты толькі мяч
Прэ ў вароты ліхадзей,
Кіўне ўсіх, бяры, хоць плач.

Ну, а Ваня — групы трэнер,
То заўзяты футбаліст,
Гоніць мяч да цэлай групы,
А бадай жа ты быў скіс!

А як ўжо наш Лёнька Стах
Граці сіл не мае,
Падыходзіць к яму страх,
Фаўляваць ён пачынае.

Генік, што на абароне грае,
Да нападу часта выбятае,
За што ён пасля ігры
Дастаўшы, плакаць пачынае.

Усе нашы хлопцы
За сялом трэніруюць,
Усе яны малайцы,
У спорце сілы мераюць.

**Валодзя Нецікавы**




**У ГАРОШАК**

Гарошак, кропкі і кропачкі — гэта ўзоры заўсёды модныя і падыходзяць да кожнага твару. Але найважнейшае тое, што з такіх матэрыялаў можна пашыць амаль усё, што толькі захочаце, менавіта, спартыўную сукенку, выхадную сукенку, а таксама касцюм.

Матэрыял у гарошак падыходзіць для жанчын у кожным узросце. Прыгожа выглядаюць у іх нават пажылыя жанчыны, асабліва, калі да сівых валасоў падбяруць на сукенку матэрыял, напрыклад, светлашэры ў белы, блакітны, ці ружовы гарошак альбо кропкі.

Тканін з такімі ўзорамі ў магазінах шмат. Можна знайсці там сацін добрага гатунку, штучны шоўк, сцілон і крэтон. Не бракуе таксама і шыфону ў гарошак. З яго варта было б пашыць тоненькую блузачку, якую можна было б апранаць пад касцюм.

Матэрыял у гарошак падыходзіць таксама для розных пераробак. З гэтай мэтай можна выкарыстаць старую сукенку ў гарошак, спалучаючы яе з з гладкім матэрыялам. Вельмі прыгожа выглядаюць таксама каўнерыкі, манжэты, а таксама жабо ў гарошак. Калі ж мы пашыем сабе летні касцюм з такой тканіны, дык жакет можна насіць асобна з іншымі гладкімі спаднічкамі ці сукенкамі, а спаднічку з аднакаляровымі блузкамі ці світрамі. Як бачым, гарошак і кропкі падыходзяць на розныя аказіі.

Можна да сукенкі ў ружовы ці блакітны гарошак зрабіць блакітныя ці ружовыя фальбанкі. Важна пры гэтым, каб былі яны ў тым самым адценні.

**Сяброўка**






Пад раніцу падмарозіла. Ільдзінкі ў лужынах звонка хрусцелі пад ботамі. Яфімцаў зябка ўздрыгнуў і азірнуўся назад. За ім крочылі Жырноў і Шадзейка. Жырноў шалыгаў бадзёра і ўважліва азіраўся вакол, Шадзейка плёўся, апусціўшы галаву, часта спатыкаўся.

— Глядзі, прачнешся на тым свеце, і роту не паспееш стуліць. А ну, шырай крок!

Салдаты пайшлі хутчэй.

Дазор павінен быў кантраляваць участак шашы, затым праверыць, як дзейнічае новая сістэма аховы на мосце, і вярнуцца на заставу. Да моста на шашы трэба было дабрацца ў самы непрыемны для вартавых перадасвітальны час. Капітан Глебаў сказаў на інструктажы, што менавіта ў гэты час часцей за ўсё здараюцца непрыемнасці на пастах. „Гэта так, — думаў Яфімцаў, — тут вунь ідзеш, і то сон хіліць, а калі стаяць, ды яшчэ ў цёплай будцы“. І ён міжвольна соладка пазяхнуў.

Наперадзе заблішчэла рака, шаша ўзбягала на мост.

„Ну, здаецца, ноч прайшла спакойна“, — толькі падумаў Яфімцаў, і ў той жа момант стрэлы раскалолі перадсвітальную цішыню. Стралялі на мосце.

— К бою! — скамандаваў Яфімцаў і, разгарнуўшы свой дазор у кароткі ланцуг, бегма павёў на стрэлы.

Страляніна нечакана сціхла. У кустах ля дарогі мільганула шэрая постаць:

— Стой! — крыкнуў Яфімцаў.

У адказ пальнуў нямецкі „шмайсер“. Усе трое кулём скаціліся ў кювет і адкрылі агонь па кустах. Кусты маўчалі.

Ад моста беглі салдаты. Яфімцаў выйшаў на дарогу.

— У чым справа? — спытаў ён задыханага і ўсхваляванага сержанта.

— Ды разумееш, нейкі тып у нашай форме вось з гэтага боку падыйшоў да маста. Мне, кажа вартавому, на той бок патрэбна. Ну вартавы яго блізка не дапусціў, гукнуў мяне, начальніка каравула. Я хацеў гэтага тыпа затрымаць, а ён сігануў пад адхон ды адтуль — з аўтамата. Вартавога параніў.

— Значыць, гэта ён нас там пачаставаў, — Яфімцаў паказаў на кусты. — Пойдзем па следу, можа нашы кулі яго зачапілі. Які ён з выгляду?

— Здаровы, трошкі гарбаты, пагоны, здаецца, сержанцкія, добра не разгледзеў — не да гэтага было.

— Ну што ж, бывайце, хлопцы. Глядзіце на ўсе вочы.

У кустах валяўся кінуты, без патронаў, „шмайсер“. Сляды вялі ў забалочаны хмызняк. Дазор доўга блукаў па лесе, пакуль зноў не выбраўся на шашу. Тут сляды нечакана згубіліся. Вылаяўшыся, Яфімцаў пакіраваў на заставу.

*

— Фальварак давядзецца пакуль пакінуць, — сказаў Глебаў, пазіраючы на карту. Побач з ім стаялі Лузан і Людвіг Вышаслаўскі. На падворку строіліся салдаты заставы і байцы атрада самаабароны — жыхары Кудароўшчыны.

— Зоймемся раёнам моста, — прапанаваў Глебаў. — Гэты „сержант“ недзе тут. Яфімцаў згубіў яго на шашы. Наперад ён не пасунецца — там мост, назад пойдзе — кантрольны пост. Злева ад шашы — балота, ён у яго спачатку палез, але хутка выбраўся назад. Застаецца лес з правага боку шашы.

*

— Чорт бы вас узяў зусім, Пінчук. Якога д'ябла я з вамі звязаўся, не разумею. Не ра-зу-ме-ю.

Маёр нервова хвастаў дубчыкам па халяве бота.

— Скуль жа я ведаў, што на мост столькі аховы наставяць?

— Вось і трэба было дзейнічаць раней, калі там драмаў адзін вартавы. Чаго вас насіла на мост у першы раз?

— На разведку.

— А потым сноўдаліся? Я чакаў вас два дні. Усё было -атова. Ахову зняць — як плюнуць, мост пусціць у паветра — яшчэ лягчэй.

— Заблудзіўся я ў гэтых чортавых балотах, у іх і сам чорт заблытаецца.

Маёр злосна махнуў рукой. Яны сядзелі на паваленай сасне непадалёку ад глухой лясной дарогі. Ля дарогі, крыху замаскіраваны маладымі хвойкамі, стаяў штабны „віліс“.

— Я таксама тое-сёе зрабіў, — буркнуў Пінчук, — дарма час не траціў.

— Сувязістаў пастралялі, — пагардліва сажмурыўся маёр. — Выдатна справіліся, прызнаю.

— Не толькі сувязістаў...

— Ну, вось што, — маёр устаў, — нам тут заслугі пералічваць няма калі. Шум на мосце вы ўзнялі на ўсе Аўгустоўскія лясы, і я думаю, лепей вам адсюль знікнуць зусім і чым хутчэй, тым лепш. Убачымся праз два дні там жа і ў той жа час. І не ўздумайце яшчэ раз заблудзіцца. Я паехаў.

— А як жа я?

Маёр паціснуў плячыма.

— Не ведаю. Да шашы я вас падкіну, але не далей. Вашу фізіяномію цяпер на ўсіх пастах ведаюць. Захараў размаляваў, калі трапіў да чэкістаў, а цяпер яшчэ ахова моста дабавіць. Вартавога хоць ліквідавалі?

— Не правяраў. Бачыў, упаў.

— Словам, да шашы падвязу, а там — я адзін.

— А чаго мне да шашы, каб адразу схапілі? Можа, на заставу папрасіцца пераначаваць? — з'едліва ўхмыльнуўся Пінчук.

— Туды, можа, і нявартa, — спакойна адказаў маёр. — Між іншым, у лясах многа больш спакойных часцей: склады, лазня, пральныя атрады, майстэрні.

— Вам і машыну далі ў гэтых спакойных часцях? — зноў усміхнуўся Пінчук.

— Амаль. Як гаворыцца, папрасіў, каб гаспадар не бачыў. Ну, рушылі.

*(Працяг будзе)*



 

# Трыбуна чытачоў

## Найлепшы кіёск „Руху"

Адным з найлепшых кіёскаў „Руху" ў Гайнаўцы з'яўляецца кіёск 231 на вуліцы Вызвалення. Кіёск гэты вядзе Марыя Смольская і Вера Валянтовіч. Яны вельмі ветлівыя да людзей і ўтрымліваюць парадак у кіёску і каля яго. У іх заўсёды многа пакупнікоў, таксама пастаянных. Людзі хваляць ветлівасць прадаўшчыц.

Кіраўнік ПУПіК „Рух" у Гайнаўцы таксама не мае ніякіх засцярог да працы кіёска 231, больш таго, ставіць яго за прыклад іншым. Кіёск гэты заўсёды адкрыты, і не сустрэнеш тут паперак з рознымі надпісамі на замкнутым акенцы.

Прадаўшчыцы аднак наракаюць, што позна дастаўляюць у іх кіёск газеты.

Вельмі прыемна павіншавалі пакупнікі абедзвюх прадаўшчыц кіёска 231 у Дзень жанчын — уручылі ім кветкі і шакалад.

**Адам Цэха**

## Агляд музычных калектываў

Павятовае праўленне ЗСМВ у Гайнаўцы прыслала інфармацыю пра агляд музычных калектываў з Гайнаўскага і Бельскага паветаў. Агляд адбыўся ў Гайнаўцы ў Доме культуры „Гурнік" і праходзіў пад лозунгам „Песня XXX-годдзя". Прыпомніў ён найбольш папулярныя песні і мелодыі мінулых 30-ці год. Калектывы выконвалі таксама любімыя рускія і савецкія песні. Шэсць гадзін ішоў гэты конкурс, а больш тысячы асоб слухала яго.

Камісія вырашыла вылучыць два музычныя калектывы: „Войткі" з Кляшчэляў (ім быў прызнаны пераходны кубак павятовага праўлення ЗСМВ у Гайнаўцы) і „Нэвэні" з Бельска.

Дадаткова камісія вылучыла калектыў „Войткі" за найлепшае выкананне рускай песні, калектыў з Ляснога тэхнікума ў Белавежы за найпапулярнейшую песню XXX-годдзя, а таксама іншыя калектывы. Зацікаўленне аглядам было настолькі вялікае, што арганізатары рашылі даць яшчэ канцэрт лаўрэатаў. Ён адбыўся ў апошні дзень сакавіка, таксама ў Гайнаўцы.

## Што ў Ляшчынах?

Вёска Ляшчыны належыць да Гайнаўскага павету, да гміны ў Чыжах. Невялікая гэта вёска — 15 гаспадароў. Давялося мне неяк вяртацца праз Ляшчыны ад аўтобуса ПКС. Я думаў, не прайду праз вёску, бо па вуліцы яе быццам рака плыла. Стаў і думаю, што тут рабіць? Ці мо назад вяртацца? На гэты час з адной ляшчынскай хаты выйшаў чалавек і кажа да мяне: „Куды ты хочаш ісці, чалавеча, калі тут трэба лодкай плысці?" А потым яшчэ расказаў больш пра сваю вёску Ляшчыны. У ёй няма солтыса. І няма каму заняцца рознымі, звычайнымі справамі вёскі. Няма каму напісаць у гміну ці павет, каб брук зрабілі ў вёсцы, бо цяпер: летам з-за шчырага пяску не праедзеш, а вясной — з-за вады.

Я напомніў майму ляшчынскаму субяседніку, што неяк даўней пісалі ў „Газеце Беластоцкай" аб тым, што ўжо ўсе дарогі ў Гайнаўскім павеце напраўлены. А чалавек той мне ў адказ: „Гэта толькі ў газеце так напісалі. Добра цяпер было б, каб пачула рэдакцыя „Нівы" пра тое, як мы тут у Ляшчынах мучымся".

**А. Б.**

## Дарослыя вучацца

ПГР — Геранімава, Беластоцкі павет, арганізавала для сваіх працаўнікоў курс па праграме пачатковай школы. На курсе вучыцца каля 20 чалавек. Усё гэта дзякуючы надінспектару Бароўскаму і дыр. ПГР Абрамовічу.

**М. Краўчук,**
Патока

## Скупка яек

Жанчыны з Дубіч Царкоўных і навакольных вёсак мелі вялікія цяжкасці са сваім таварам — яйкамі, не было дзе іх прадаваць. У вясковых крамах не вялася скупка. Але вось нядаўна ГС у Кляшчэлях паклапаціўся, каб і ў нас ніхто не ламаў сабе галаву, што рабіць з яйкамі. Быў адкрыты пункт скупкі яек у вёсцы Тафілаўцы, у хаце селяніна Івана Дзмітрука. Ён жа і скупшчык. Ён і стараўся найбольш, каб сваёй і бліжэйшым вёскам уладзіць справу скупкі яек.

А людзі задаволены, што не трэба цяпер цягнуцца з таварам аж у Кляшчэлі.

**М. Панфілюк**

## Выбар солтыса ў Ліпінах

У першым квартале 1974 года адбыліся ўсюды выбары салтысоў. Выбары солтыса адбыліся нядаўна ў вёсцы Ліпіны, Гайнаўскай гміны.

У хаце Рыгора Скепко, дзе адбываўся выбарны сход, было поўна народу. Усе былі ўсхваляваныя, бо дагэтуляшні солтыс Мефодзій Гушча, які быў солтысам 16 год, рашыў па прычыне пажылога ўзросту адмовіцца ад выконвання абавязкаў солтыса.

Памыляўся аднак, калі думаў, што ўдасца адпачыць. Не памаглі яму 73 гады, не памагла сям'я, якая адмаўляла яго. Калі аднавяскоўцы, кожны паасобку, пачалі Мефодзія Гушчу прасіць і намаўляць, каб быў солтысам далей, не вытрымаў чалавек і здаўся. І быў урачыста і аднадумна выбраны зноў солтысам. Пачуваўся таксама да гэтага і таму, што нядаўна атрымаў Залаты крыж заслугі.

А мы жадаем солтысу Мефодзію Гушчы з Ліпін жывасці і поспехаў у працы ў наступныя гады.

Пры нагодзе выясняем, што Мефодзій Гушча з'яўляецца найстарэйшым гадамі солтысам у Гайнаўскім павеце.

*Раса*

## Пра вакзал у Бельску

Час падумаць пра вакзал у Бельску Падляшскім. Хто толькі пабывае тут, кожнаму кідаецца ў вочы, што дагэтуль не пабудавалі тут вакзала (яго знішчылі фашысты ў час вайны). Бельскі вакзал складаецца зараз з трох баракаў. У адным знаходзіцца каса ПКП і ПКС, і пасажыры душацца тут у цеснаце, у другім бараку буфет і таварная экспедыцыя, а ў трэцім — начальнік вакзала.

Прайшло 30 год ад вайны, і за гэты час многа чаго пабудавала краіна — фабрыкі, масты, школы, блокі, магазіны і г.д. Але людзі гавораць, што вакзал у павятовым горадзе, такім, як Бельск, таксама пара ўжо пачаць будаваць. Тут жа раз'езд чыгунак у розныя напрамкі. Праязджаюць тысячы людзей, тут чакаюць поезда, ці аўтобуса і трэба ўжо, каб людзі маглі чакаць і адпачываць у добрым месцы.

**Т. К.**




**Дарагое „Сэрцайка"!**

Мне 18 год. Жыву я на вёсцы, а працую ў клубе ў суседняй вёсцы. Калі вучылася ў горадзе Б., пазнаёмілася з Ванем. Ён мне спадабаўся і пакахала я яго, а ён мяне. Увесь вольны час мы праводзілі разам. Было нам вельмі добра. Але надышоў дзень расстання. Закончыўшы школу, я паехала на курс у іншы горад. Кончыліся нашыя спатканні. Мы толькі перапісваемся. Сумна мне было там і з нецярплівасцю чакала я весткі ад Вані. Але аднойчы пазнаёмілася з Федзем. Адно, другое спатканне, і ён мне вельмі спадабаўся. Пакахала я яго. І так, як калісь з Ванем, цяпер з ім праводзіла ўвесь вольны час. Перапіскі з Ваняй аднак не спыніла. Нядоўга аднак працягвалася і гэта маё сяброўства. Яго паклікалі ў армію, а я, закончыўшы курс, вярнулася на вёску. Федзя, адыходзячы, прасіў, каб не забыла аб ім, каб перапісвалася, каб чакала. Я перапісваюся з абодвума хлопцамі. Абодва яны мне падабаюцца і абодвух іх кахаю. І адзін і другі хацеў бы быць са мной. Пакуль што абодва хлопцы далёка ад мяне, і я не ведаю, каго з іх выбраць. Падкажы мне, „Сэрцайка".

**Расчараваная Марылька**

**Марылька!** Цяжка тут даць табе станоўчы адказ. Што хлопцы табе абодва падабаюцца — я згодна, але сумняваюся, каб ты іх абодвух кахала. Кахаць жа можна толькі аднаго. А выбраць цяжка, бо яны абодва далёка ад цябе. І, думаю, у будучыні пераможа той, які будзе бліжэй і з якім часцей будзеш спатыкацца. А мо яшчэ нейкі іншы хлапец падвернецца і спадабаецца больш ад гэтых?

**„Сэрцайка"**

## Крама ў Целушках

Стаіць сярод вёскі вялікі і прыгожы мураваны будынак, з вялікімі вокнамі ў сцяне ад вуліцы. Гэта крама. Яна адкрыта ад гадзіны 8 да 12 і пасля абеду ад 14 да 18. Уваходжу ў краму, а тут прылаўкі, лядоўка і чаго толькі няма. Ёсць багата што купіць: і хлеб, і соль, і цукар, і мука, і розныя крупы, і масла, і сала, і сыры, і мармелад, а нават каўбаса. Ёсць марожаная рыба і селядцы, віно і піва, ёсць сшыткі і іншыя школьныя прылады.

З адзежы: кашулі, світры. А ў жалезным аддзеле — ложкі, нажы, відэльцы, міскі, талеркі, патэльні, сякеры, цвікі ўсіх размераў, нават апоны да веласіпедаў, гумовы клей і найбольш патрэбныя часткі. Стаю і любуюся, як прыгожа і прасторна ў гэтай краме, як многа тут тавараў і пакупнікоў.

За прылаўкам прадаўшчык Іван Паўлючук — прыгожы, здольны і малады яшчэ, год пад трыццаць, чалавек. Ён ветлівы, вітаецца з кожным. Чыста і спраўна важыць і падае тавары. Целушкоўскі крамар з'яўляецца грамадскім дзеячом. Ён радны павятовай рады нарадовай у Беластоку, член партыі.

Мураваная крама ў Целушках была пабудавана ў 1964 годзе. На адно толькі скардзяцца людзі ў Целушках. Солтыс вёскі Павел Марчук выясняе, што з іхняй крамы хочуць забраць усе жалезныя тавары і прадаваць іх аж у Рыбалах. Тады, зразумела, калі што папсуецца ў цябе, трэба будзе бегчы аж у Рыбалы, патраціць цэлы дзень. А дагэтуль усё было на месцы — добра было. У целушкоўскую краму прыходзілі купляць людзі з суседніх вёсак.

— Заўсёды столькі людзей у краме? — пытаю. Солтыс пацвярджае. Так, людзі сходзяцца сюды пераважна пад вечар, пасля работы ў полі. Тут пагутараць, піва вып'юць, навінкі раскажуць і купяць што трэба. Пры такіх гутарках паўстаюць планы. Цяпер вось будуюць жвіроўку ад Целушкоў да сваёй граніцы, а далей будуюць іншыя вёскі і гэтак аж у Рыбалы — 10 кіламетраў. Будзе добрая дарога!

**М. Матвеюк**

## Насенне ў Шудзялаве

Жыхары гміны Шудзялава дагэтуль ездзілі ў Саколку на рынак, або ў краму насеннай цэнтралі ці ў вітаміну, каб купіць насенне травы, канюшыны, сырадэлі і інш. Таксама не было ў Шудзялаве насення гародніны: агуркоў, салаты, капусты, буракоў, морквы. На днях насенная цэнтраля ў Саколцы адкрыла ў Шудзялаве насенную краму. Найбольш купляюць насенне персідскай канюшыны, кармавых буракоў, капусты.

**Т. К.**

## Гурток БГКТ у Чаромсе-вёсцы



У гуртку БГКТ у Чаромсе-вёсцы ажывілася культурна-асветная дзейнасць. Яе ў свае рукі ўзялі Галіна Кердэлевіч, Янка Шатыловіч, Дзмітры Самасюк і кіраўнік клуба „Рух" — Надзя Дудар.

Яны арганізавалі вечарыну ў гонар XXX-годдзя ПНР. Падрыхтавалі багатую мастацкую праграму. Былі песні, вершы, скетчы і п'еса „Прымакі". Праграму вяла дзеяч БГКТ, цяпер студэнтка рускай філалогіі Люблінскага універсітэта Яўгенія Раманюк. Яна якраз у час зімовых канікул прыехала ў родную вёску.

Хочацца павіншаваць нашых маладых і адданых прапагандыстаў роднага слова, якія разгарнулі працу ў сваім асяроддзі.

На здымку Галіна Кердэлевіч, актывістка гуртка з Чаромхі-вёскі.

**В. Бура**

### У адказ на нашу крытыку

## Дадатак да адказу з 10 нумара „НІВЫ"

**Адказвае:**
**Urząd Miejski w Bielsku Podlaskim.**
**Dotyczy: szaletu przy targowicy nabiałowej w Bielsku Podlaskim.**

W ślad za pismem Nr j. w. z dnia 8 lutego br. Urząd Miejski w Bielsku Podlaskim — Referat Gospodarki Komunalnej i Mieszkaniowej informuje, że Gminna Spółdzielnia „Samopomoc Chłopska" w Bielsku Podlaskim przystąpiła do remontu szaletu publicznego przy ul. Krynicznej (targowica nabiałowa). W chwili obecnej wykonano odnowienia i odmalowania elewacji. W celu zapewnienia czystości i porządku w szalecie, GS zatrudnił na umowie-zleceniu opiekuna szaletu.

Do wykonania pozostał remont wewnętrzny posadzek, polegający na wykonaniu robót betoniarskich. Prace te zostaną wykonane z chwilą polepszenia warunków atmosferycznych (temperatura powyżej 0°C), o czym natychmiast powiadomimy.

**Z up. Naczelnika miasta**
**Kazimierz Sawicki**
**Kierownik referatu**

## Кіно

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Белавежа**
„Polonez Ogińskiego" (radz.), 9—10. „John i Mery" (USA), 11—12. „Dziewczyna na miotle" (czeski), 13—15.

**Чаромха**
„Dom państwa Bories" (franc.), 9—10. „Woda życia" (radz.), 13—15.

**Кляшчэлі**
„Własne zdanie" (bułg.), 9—10. „Nocny kowboj" (USA), 11—12. „Nikt nie rodzi się żołnierzem" (radz.), 13—15.

**Нараўка**
„Ostatni watażka" (bułg), „Roztargniony" (franc.), 10—15.

**Нарва**
„Sekret" (polski), „Pogromca zwierząt" (rumuński), 10—15.

**Чыжы**
„Pod prąd" (węgierski), „Zimorodek" (radz.), 10—15.

**Дубічы Царкоўныя**
„Hubal" (polski), „Skok o świcie" (radz.), 10—15.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Орля**
„Cudowny kożuszek" (węgierski), „Rewizja osobista" (polski), 10—15.

**Райск**
„Ocalenie" (polski). „Dramat zazdrości" (włoski), 10—15.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**
„West Side Stomy" (USA), 13—15.

**Міхалова**
„Z księgi królów" (radz.), 9—10. „Tylko wtedy gdy się śmieję" (angl.), 11—12. „Tajemnica Aleksandra Dumasa" (czeski), 13—15.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Шудзялава**
„Ciepło twoich rąk" (radz.), „Opętanie" (polski), 10—15.

**Янаў**
„Liliowa akcja" (węgierski), 10—15.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Нурэц**
„Śmierć wybiera" (czeski), 9—10. „Wilk morski" (rumuński), 11—12. „Zemsta wilka morskiego" (rumuński), 13—14.

**Мілейчыцы**
„Trzy godziny miłości" (jugosł.), 9—10. „Królewna w oślej skórze" (franc.), 11—12. „Ciemna rzeka" (polski), 13—15.

**Мельнік**
„Zdarzenie" (jugosł.), 9—10. „Zdradzieckie gry miłosne" (czeski), 11—12. „Nad Kolly" (angl.), 13—15.

Ніва

Organ Zarządu Głównego Białoruskiego Towarzystwa Społeczno-Kulturalnego. Wydawca: Białostockie Wydawnictwo Prasowe RSW „Prasa-Książka-Ruch". Redaguje Kolegium. Adres Redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Numer przy przesyłkach pocztowych: Redakcja tygodnika „Niwa", Skr. poczt. 281, 15-950 Białystok. Telefony: Redaktor Naczelny i Sekretarz Redakcji 2-10-33, publicysci 2-32-41 do 45 (centrala). Cena prenumeraty krajowej: rocznie: 28,80 zł, półrocznie: 14,40 zł, kwartalnie: 7,20 zł. Prenumeraty przyjmowane są do dnia 10 każdego miesiąca poprzedzającego okres prenumeraty. Prenumeraty na kraj dla czytelników indywidualnych przyjmują Urzędy Pocztowe oraz listonosze. Można również wpłaty dokonywać na konto I Oddziału Rejonowego „Ruch" w Białymstoku 150-6-161 NBP I OM Białystok. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Wszystkie instytucje państwowe i społeczne w miastach, zamawiają prenumeratę wyłącznie za pośrednictwem Oddziałów i Delegatur RSW „Prasa-Książka-Ruch". Pozostałe — mające siedzibę na wsi lub w innych miejscowościach, w których nie ma Oddziałów i Delegatur zamawiają prenumeratę za pośrednictwem Urzędów Pocztowych. Prenumeratę na zagranicę przyjmuje: RSW „Prasa-Książka-Ruch", Biuro Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych, Wronia 23, 00-840 Warszawa. Konto PKO Nr 1-6-100024. Cena prenumeraty dla zagranicy jest wyższa od prenumeraty krajowej o 40 proc. Nr indeksu 36911.

BZGraf. Nakład 8002 O-3

# РАБОТНІК

— Бач ты, як працуе! — сказаў брыгадзір лесарубаў Мацвееў і выключыў электрапілу.

— Так, на дзіва, — прабасіў Хвядотыч і ўзяў прыклад з брыгадзіра.

— Дае, — прыкурваючы папяроску, згадзіўся Пятрук. — І што самае цікавае — без перакураў!

— Адкуль у яго столькі сілы бярэцца? — здзівіўся брыгадзір.

— Адкуль? Ад здароўя ўсё, — вытлумачыў Хвядотыч. — На паветры. Харчуецца добра. На мяса не кідаецца. Больш націскае на вітаміны. І жыццё ў яго спакойнае. Без асаблівай нервовасці. Не п'е.

— Зусім? — спытаў механік Вешкін.

— Чаму! Ваду п'е. Бярозавы сок.

— А мой арганізм гэтыя сокі не прымае, — усміхнуўся Вешкін. — Хоць забі. Не прывыклы ён да іх.

Усе засмяяліся.

— Гляньце! — закрычаў Пятрук. — Месца змяніў, і зноў!

— Працуе, звяруга, — усміхнуўся Вешкін. — Як на здзельшчыне.

— А можа, проста свядомы? — сказаў Пятрук.

Усе засмяяліся.

— Не свядомы ён, — сказаў брыгадзір, — а проста дурны. Вось і дае. Без перадышкі.

— Не, не дурны, — засупярэчыў Хвядотыч. — Ён сваё ведае. Працуе — значыць патрэбнасць ёсць.

— І без абеду можа? — сказаў з'едліва Пятрук.

— І без вячэры, — сур'ёзна сказаў Хвядотыч. — Калі трэба.

— А можа, у яго нейкі план ёсць? — не здаваўся Пятрук.

— Не дурэй, — сказаў брыгадзір, — не месца. Ты яго лепш пагані. Каб не перашкаджаў. І не дзейнічаў на нервы. А то ад яго ўжо ў вушах стукае.

Пятрук кінуў галінку і спудзіў дзятла.

**Варлен Стронгін**



*— Калі не будзеш слухацца, сюды прыдуць людзі і пабудуюць хімкамбінат...*



*Усё часцей паляўнічыя трафеі выглядаюць менавіта так.*

# НІЎКА



*Пад адзін грэбень.*

## ГУМАР З

### ПАН І ПАСТУШОК

Аднойчы ехаў пан. Даязджае да рэчкі, а там паблізу пастушок пасе авечак. Вось пан і пытае ў яго: „Колькі ў цябе авечак? Ці далёка да вёскі? Ці рэчка гэта глыбокая? Як цябе завуць?" Дык той пастушок і кажа яму: „Семсот, сем міль, па калена, Марцін".

### ІНШАЯ СПРАВА

Ляснік ідзе побач ставу і бачыць, што нехта ў ім купаецца.

— Ці ж вы не чыталі аб'явы, што ў гэтым ставе забаронена купацца?

— Я не купаюся, я тану.

— Гэта мяняе справу, — кажа ляснік, — гэта не забаронена.

### ПАКУЛЬ НЕ ЗЛОВЯЦЬ

— Ты ведаеш, колькі жывуць рыбы? — спытаў пяцікласнік Вова ў свайго брата-дашкольніка.

— Пакуль іх не зловяць, — адказаў малы.



**...Вавёрка ў коле запэўнівала, што яна ўжо тройчы аббегла зямную кулю.**

**...Паслалі па слана, каб выцягнуць з лужыны камара.**

### БЕДНЫ

З казіно ў Мантэ Карла выходзіць чалавек, якому пашанцавала ў ігры. Кішэні яго поўныя грошай. У цемнаце ён чуе голас:

— Мсье, ці не дапаможаце вы бедняку, у якога нічога няма, акрамя рэвальвера ў руцэ?

### У ЗААПАРКУ

Муж з жонкай прыйшлі ў заапарк і спыніліся перад клеткай з драпежнікамі. Муж гаворыць:

— Як ты думаеш, Эльза, што б сказаў гэты тыгр, калі б ён мог размаўляць?

— Я леапард, Эльза! — пачулася з клеткі.

## МІНІВЕРШЫ

### ВОЎЧАЯ ПРАЎДА

Перад звярамі шэры пахваляўся,
Што мясам век не харчаваўся.
Лавіў худога зайца часам,
Але ж якое з яго мяса?

### ГАРАЧЫЯ АБДЫМКІ

Абняў агонь
Прыгожую яліну
І шэпча ёй:
— Я без цябе загіну.

**Нічыпар Парукаў**

### ВОСТРАЯ ЛЮБОЎ

Хоць захапляўся
Ён лесам без меры,
Ды не з'яўляўся
Сюды без сякеры.

**Мікола Чэпікаў**

*КАРЦІНКІ З ХЕЛЬСІНКІ*



*— А дзе ж шайба?*

*ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ*

*Па просьбе Марысі Анапюк з Грыгароўцаў, Веры і Марысі Манцюк з Мікуліч, а таксама Зіны Марозавай, Ірэны Якацюк, Гені Вішанка і Галены Паўлючук змяшчаем песню*

## ŻEBY SZCZĘŚLIWYM BYĆ

słowa: Andrzej Kudelski
muzyka: Jarosław Kukulski i Janusz Sławiński
śpiewa: Anna Jantar

Tak mało trzeba nam i dużo tak
Żeby szczęśliwym być, drugiemu szczęście dać
Wystarczy ciepło rąk, muśnięcie warg
Wystarczy żeby ktoś pokochał nas
Żeby szczęśliwym być i szczęście dać
Tak mało trzeba nam i dużo tak

Nim wygramy własny los
Musimy wierzyć w tyle słów
Czy złe, czy dobre są
Nim przyjdzie ktoś
W nasz sen — powszedni dzień
Nie powie może nic
Bo przecież wie...

Tak mało trzeba nam i dużo tak
Żeby szczęśliwym być...

Nie uwierzę w smutek dnia
Uśmiechem słońca dotknę ust
Nim świt przemieni nas
Świat będzie śnił
Swój sen — powszedni dzień
Wy w nim będziecie szli
Nie wiedząc, że...

Tak mało trzeba nam i dużo tak
Żeby szczęśliwym być...





### БЫВАЛАЯ

У оперы жонка звяртаецца да мужа, які сядзіць побач:

— Я, відаць, ужо слухала гэтую оперу, бо кулісы здаюцца мне знаёмымі.

### СПОСАБ

— Можа, вы ведаеце, што трэба зрабіць, каб не пасівець?

Тут падыйшоў Кіндзюліс і сказаў:

— Палысець.

### ГЭТА ЎДАР!..

Расказваў адзін дзядзька.

— Іду лесам, — кажа, — а ў патыліцу і ў вочы такі вецер дзьме, што можа з ног зваліць. Гляджу, перада мною воўк. Страляць няма чым, а ўцякаць позна. Я як размахнуўся, як урэзаў ваўка кулаком і ўпаў у снег. А як апамятаўся, дык убачыў на зямлі двух ваўкоў. Гэта быў удар!..





### ЗАКАХАНЫЯ РАБАЎНІКІ

З нядаўняга часу ў Кеніі і Угандзе рэзка павялічыліся выпадкі крадзяжу жывёлы. Аднак гэта выклікана зусім не цяжкасцямі з забеспячэннем мясам. Уся справа ў тым, што ў гэтых краінах размеры выкупу за нявест імкліва пайшлі ўгору, і жаніхам стала цяжка знайсці сабе сяброўку жыцця менш чым за 50 кароў.

На думку мясцовых улад, каля 50 тысяч кароў, украдзеных за апошні час, трэба аднесці за „кошт" закаханых смельчакоў.

### ШАМПАНСКАЕ ДЛЯ... ПАПУГАЯ

У заапарку горада Мельбурна (Аўстралія) жыве папугай з сямейства какаду. Ад іншых папугаяў ён адрозніваецца тым, што на яго ў банку налічана круглеькая сума, з якой аплачваецца яго асобная кватэрка ў заапарку і штодзённая спецыяльная дыета, якая ўключае ў сябе і шампанскае. Усё гэта прадугледзела ў завяшчанні цяпер нябожчыца гаспадыня папугая. Старая памерла ва ўзросце 90 гадоў, а папугаі, як вядома, жывуць да 100 гадоў. Яе пярнатаму наследніку нядаўна споўнілася ўсяго 25 гадоў.

### ЯШЧЭ АДЗІН РАБІНЗОН

Японскія рыбакі, праплываючы на судне паблізу невялікага бязлюднага вострава Хатыокуадзума, нечакана ўбачылі на ім мужчыну. Як высветлілася, гэта быў мастак аднаго з японскіх выдавецтваў. Ён добраахвотна асудзіў сябе на нягоды, каб „выпрабаваць пачуцці" Рабінзона Круза на ўласным вопыце. Карціны і замалёўкі, якія ён зрабіў на востраве, будуць дэманстравацца ў Токіо на спецыяльнай выстаўцы пад назвай „Вачыма сучаснага Рабінзона".





*Лес рубаюць? Пэўна, закладаюць парк.*